# Рэгіянальная газета.

Rh.by

rg_rhby

rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

7 мая 2021 года №19 (1358)

18+


**Віншуем з Днём Перамогі!**



# Пра Асвенцым, Дахаў і жыццё гастарбайтараў у Германіі

Жыхарка Асаўца Лідзія Дарафееўна Мушавец прыгадвае ваеннае мінулае

старонкі 20-21

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**У Вілейцы адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар знакамітага хірурга**

старонка 2

**У Маркаве зладзілі велікодны абрад «Лука». Ён можа атрымаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці**

старонка 17

**На Мядзельшчыне 12-гадовы хлопчык выратаваў брата з пажару, а сам пацярпеў**

старонка 4

**Аляксея Кудзіна могуць экстрадаваць у Беларусь**

старонка 22

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Ушанавалі памяць доктара, які лячыў Любоў Арлову і Міхаіла Гарбачова

## На будынку бальніцы павесілі мемарыяльную дошку ў яго гонар

ВІЛЕЙКА

**На будынку тэрапеўтычнага корпуса Вілейскай ЦРБ днямі ўсталявалі мемарыяльную дошку ў гонар Мікалая Маліноўскага – знакамітага хірурга, сярод пацыентаў якога былі Юры Андропаў, Міхаіл Гарбачоў, Наіна Ельцына, Сяргей Лемешаў, Георгі Жукаў, Любоў Арлова.**




Мемарыяльную дошку ў гонар знакамітага земляка размясцілі на будынку тэрапеўтычнага корпуса Вілейскай ЦРБ.

Фота vilch.by.

А пачыналася ўсё на Вілейшчыне. Тут, у вёсцы Жаўткі, што цяпер у Любанскім сельсавеце, нарадзіўся будучы доктар-хірург.

Як расказалі ў Вілейскім краязнаўчым музеі, Мікалай Маліноўскі спачатку вучыўся ў польскай гімназіі імя Генрыха Сянкевіча ў Вілейцы, а ў 1939 годзе ўстанова стала Вілейскай сярэдняй школай. Мікалай Маліноўскі быў сярод першых яе выпускнікоў у чэрвені 1941 года.

**У вілейскай бальніцы Мікалай Нікадзімавіч працаваў адразу пасля заканчэння Мінскага медінстытута – ад 1948 да 1951 года.**

Пасля жыў і працаваў у Маскве. Шмат год быў хірургам чацвёртага Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР. Ён двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Герой Сацыялістычнай Працы, доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік.

Мікалай Маліноўскі напісаў сем манаграфій і больш за трыста навуковых прац па медыцыне, многія з якіх прысвечаныя хірургічнаму лячэнню парокаў сэрца, захворванняў падстраўнікавай залозы, ранняй формы анкалогіі страўніка.

Менавіта доктар з Вілейшчыны быў адным са стваральнікаў кардыястымулятара ў былым СССР. Больш за 25 год быў галоўным рэдактарам часопіса «Хірургія».

Памёр у Маскве ў 2018 годзе.

– Да апошніх дзён Мікалай Маліноўскі не траціў сувязяў з роднай Вілейшчынай.

**Нягледзячы на вялікую занятасць, прыязджаў у родную вёску Жаўткі, дзе ў яго засталіся сваякі, – расказала карэспандэнту навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея Вольга Коласава.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**



1948 год. Ардынатары хірургічнага аддзялення вілейскай бальніцы. Мікалай Маліноўскі першы злева.

## Дайджэст: Пастаўкі нафты скарацілі, сілавікоў пазбавілі званняў

**Пра важныя падзеі апошняга тыдня нагадваем у нашым аглядзе.**

### Пастаўкі нафты ў Беларусь скарацілі больш чым у два разы

Расійская «Транснафта» плануе паставіць у маі ў Беларусь 608 тон нафты. Гэта ў 2,2 раза менш, чым было ў красавіку. Адзначалася, што «Нафтан» атрымае толькі 50 тысяч тон, а Мазырскі НПЗ – 560 тысяч тон.

### Плануюць даваць аплатны выхадны для праходжання дыспансерызацыі

Пра гэта паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч**.

– Цяпер абмяркоўваем магчымасць уключэння такой нормы, па якой работніку даецца і аплачваецца адзін дзень на праходжанне дыспансерызацыі, – сказала Касцевіч.

Абмяркоўваецца таксама пашырэнне магчымасці для шматдзетных бацькоў. Плануецца даць ім выбар – скараціць працоўны дзень на адну гадзіну альбо выкарыстаць дадатковы выхадны на тыдзень. Унесці папраўкі ва ўрад плануецца ў верасні, а ў снежні яны павінны трапіць у Палату прадстаўнікоў. Як сказала міністр, уступіць у сілу яны могуць ужо са студзеня 2023 года.

### Больш за 80 былых беларускіх сілавікоў пазбаўленыя званняў

4 мая Лукашэнка падпісаў указ №174, у адпаведнасці з якім больш за 80 былых вайскоўцаў і супрацоўнікаў розных сілавых ведамстваў пазбаўленыя воінскіх і спецыяльных званняў. У перыяд абвастрэння грамадска-палітычнага становішча ў краіне з мэтай яе дэстабілізацыі асобныя вайскоўцы і супрацоўнікі сілавых ведамстваў нагняталі пратэсныя настроі ў грамадстве, арганізоўвалі і ўдзельнічалі ў несанкцыянаваных мерапрыемствах, размяшчалі ў інтэрнэце экстрэмісцкія матэрыялы, заклікалі да радыкальных дзеянняў, праяўлялі знявагу да дзяржаўных сімвалаў, выкідалі службовыя пасведчанні, здымалі пагоны, адмаўляліся ад выканання службовых абавязкаў. У дачыненні да шэрагу з іх узбуджаныя і расследуюцца крымінальныя справы, у тым ліку за арганізацыю актаў тэрарызму.

**Паводле tass.ru, БелТА, tvr.by.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Пластыкавыя вянкі і кветкі – сумніўнае эстэтычнае ўпрыгожанне і калі іх толькі набываеш. А калі іх складаюць у горы смецця, якое будзе раскладацца стагоддзямі, то выглядае ўсё гэта яшчэ больш трывожна.

# Радаўніца. Замест пластыкавых кветак саджаем жывыя або нясём каменьчыкі

**Выдатная традыцыя ўпрыгожваць магілы кветкамі стала папулярнай у канцы 19 стагоддзя. Багатыя еўрапейцы часам нават выкуплялі цэлыя батанічныя сады пад сямейныя пахаванні, а таксама ператваралі магілкі ў сапраўдныя кветнікі.**

Беднейшыя людзі задавольваліся пасадкай звычайных кветак і неабходным для іх доглядам. У нейкі момант у нас з'явіліся пластыкавыя кветкі, і перад Радаўніцай гарады сталі ператварацца ў вялізны рынак стракатых штучных кветак. Што ж з імі не так і чаму абураюцца і эколагі, і царква?

### Прыгожыя кветкі сёння – гара пластыкавага смецця праз год

Сёння людзі ахвотна падтрымліваюць гэту традыцыю і імкнуцца ўпрыгожваць магілы сваякоў, але замест валтузні з жывымі раслінамі ўсё часцей аддаюць перавагу пластыкавым букецікам або вянкам. Гэта танна, прыгожа, ярка, проста, ніякага догляду, толькі мяняй ужо патрапаныя часам кветкі на новыя.

Але вось у гэтым і заключаецца галоўная загваздка. Звычайна кветкі мяняюць двойчы на год – на Дзяды і Радаўніцу. І тады кантэйнеры для смецця ператвараюцца ў горы рознакаляровых пластыкавых адходаў. Пластык жа ўжо перапрацоўваюць, у чым праблема? Перапрацоўваюць, але не такі. Кветкі выбраляюць з розных відаў пластыку: сярэдзіна часта з пенапласту, пялёсткі – з латэксу або поліэфіру, сцябло – з ПВХ, а ў ім яшчэ і металічныя стрыжань. Паспрабуй раздзялі такую канструкцыю, і раскладацца яна будзе ад 100 да 500 гадоў. Спальваць іх таксама нельга – у паветра вылучаюцца шкодныя рэчывы.

Заўважалі цяжкае паветра ў замкнёных памяшканнях, дзе прадаюць рытуальныя тавары? Дык вось трымаць такія кветкі і вянкі ў пакоі небяспечна, яны могуць быць афарбаваныя анілінавымі фарбамі, якія выклікаюць галаўны боль, галавакружэнне і слабасць.

### Царква таксама не ўхваляе

Падчас Радаўніцы, калі прынята ўспамінаць нябожчыкаў, у храмах здзяйсняецца літургія, дзе моляцца аб памерлых блізкіх. Затым усе ідуць на магілы, каб несці радасць аб Уваскросшым Хрысце. У гэтым і заключаецца рэлігійны сэнс свята, а кветкі – толькі элемент культуры, сімвал жыцця, якое створанае Богам.

Але пластыкавыя кветкі – не больш чым хлусня і фальш. Паводле звычаяў хрысціянства, за магіламі прынята даглядаць, прыбіраць смецце, чысціць ад пустазелля, утрымліваць іх у чысціні. Гэтым і аддаецца даніна памяці памерлым блізкім. А прыйсці пару разоў у год, прынёсшы яркі штучны букецік, святары лічаць крывадушнасцю.

«Зялёны партал» даведаўся, што думае на гэты конт іерэй **Віталь Быстроў** з уніяцкага прыходу іконы Божай Маці Жыровіцкай у Івацэвічах. У жыцці ён не купіў ні адной пластыкавай кветкі і не раіць гэтага рабіць сваім парафіянам:

«Ва Украінскай грэка-каталіцкай царкве выкарыстанне пластыкавых кветак афіцыйна лічыцца экалагічным грахом. У Беларускай такога граху афіцыйна няма, але мы ўсе актыўна не падтрымліваем няхай і прыгожую, але вельмі шкодную пластмасу. Перад святамі я кранаю гэту тэму на пропаведзі і тлумачу сваім парафіянам, чаму гэта дрэнна.

13 красавіка ў нас была Радаўніца, і мы ўсёй сям'ёй аб'язджалі магілы продкаў і радні маёй цешчы. Не завезлі ніводнай пластыкавай кветкі, а замест іх паклалі на магілы па прыгожаму каменьчыку. Гэта не менш выдатная старажытная яўрэйская традыцыя. Самі мы не яўрэі, але нейкія пабожныя, асабліва экалагічна чыстыя традыцыі можам практыкаваць.

А для тых, каму абавязкова хочацца несапраўдных кветак для ўпрыгожвання, магу параіць замовіць амаль у любога зваршчыка металічную кветку, звычайна гэта ружа: нядорага, прыгожа, хопіць на шмат гадоў», – раіць іерэй Віталь.

### Што ж пасадзіць на магілцы?

**Імхі для афармлення ўчасткаў**

Мох выдатна ўпісваецца ў любы могілкавы ландшафт і фарміруе роўнае зялёнае пакрыва. Гэта вельмі зручная расліна, вынослівая і добра размнажаецца, абараняючы глебу ад эрозіі і пустазелля.

**Саліцёр для перыметра**

Саліцёр – гэта маленькія хмызнячкі або дрэвы. Звычайна іх не саджаюць на сам пагорак, а выкарыстоўваюць для дэкору па перыметры магілкі.

**Мнагалетнікі і глебапакроўнікі для надмагілля**

Мнагалетнікі маюць уласцівасць ствараць шчыльны суцэльны дыван на магілцы і яшчэ іх можна цікава камбінаваць з іншымі раслінамі, ствараць розныя ўзоры і маленькія клумбачкі. Для гэтага падыдзе расліна барвінак з нябесна-блакітнымі кветкамі. Плюшч добра расце на сонцы і ў цяні і даўно з'яўляецца пастаяльцам могілак у Еўропе.

**Сезонныя кветкі**

Можна выбраць недарагія, але прыгожыя кветкі і камбінаваць перыяды іх цвіцення так, каб усе тры сезоны на магілцы квітнелі яркія, а галоўнае – сапраўдныя і жывыя кветкі. Для вясны можна падабраць бягоніі, прымулы, фіялкі і цюльпаны. Улетку цвіце афаналіс, а ўвосень прыходзіць час аксамітак, верасу і дэкаратыўных відаў палыну і іншых раслін.

**Таццяна ГЕНДАЛЬ, «Зялёны партал».**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**451**

столькі газет выдавалася ў Беларусі ў 2020 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.04 | 6.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5633 | **2.5623** |
| Еўра | 3.0939 | **3.0749** |
| Злоты, 10 | 6.7498 | **6.7211** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4213 | **3.4247** |
| Грыўня, 100 | 9.2263 | **9.2395** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **29.04** | **6.05** |
| Еўра | 3.0500/3.1300 | **3.0300/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5400/2.6100 | **2.5200/2.5850** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 28.04 | 5.05 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,86 | **22,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,90 | **7,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **5,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,90 | **4,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,40 | **2,40** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста маладая, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 6,90 | **4,80** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Салата, пучок | 0,70 | **0,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,80 | **6,80** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 8,90 | **8,90** |
| Грушы, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 15,00 | **14,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Прычынай ДТЗ, верагодна, стала хворае сэрца ў кіроўцы

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

27 красавіка работнікі хуткай медыцынскай дапамогі паведамілі ў міліцыю пра смерць 55-гадовага мужчыны на дарозе Маладзечна-Ілья, каля вёскі Самалі Маладзечанскага раёна.

Па папярэдняй інфармацыі, раніцай каля 10 гадзін мужчына ехаў на аўтамабілі «Газэль» з боку Ільі ў кірунку Маладзечна. Каля вёскі Самалі машына з'ехала ў кювет і стукнулася ў прыдарожныя дрэвы. Кіроўца, жыхар Вілейскага раёна, памёр.

Як расказалі ва Упраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці, на месца выязджала следча-аператыўная група. Прызначылі судова-медыцынскую экспертызу, маладзечанскія следчыя праводзяць праверку здарэння.

Па папярэдняй інфармацыі, мужчына меў захворванне сэрца, што і стала прычынай здарэння.

Аднак дакладную прычыну смерці ўстановіць экспертыза.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Завялі крымінальную справу за абразу суддзі

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне яшчэ адна крымінальная справа: дзяўчыну абвінавачваюць у абразе суддзі.

29 верасня 2020 года 22-гадовая маладзечанка пакінула два каментары ў мясцовым тэлеграм-чаце. Гэтыя каментары следчыя Маладзечанскага РАСК расцанілі як абразу суддзі.

Па інфармацыі «Рэгіянальнай газеты», абвінавачанай з'яўляецца **Кацярына Гамолка**, а пацярпелай – суддзя суда Маладзечанскага раёна **Вікторыя Паляшчук**.

Раней Кацярына прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве ў жніўні 2020 года. Яе справу разглядала суддзя, якую пасля нібыта абразіла дзяўчына. Суддзя прызначыла пакаранне ў выглядзе 20 базавых велічынь, таму маладзечанка апублікавала ў тэлеграм-чаце нібыта абразлівыя каментары.

Абвінавачаная цалкам прызнала віну. Яе кваліфікавалі па артыкуле 391 Крымінальнага кодэкса «Абраза суддзі». Санкцыя па дадзеным артыкуле: штраф, выпраўленчыя працы на тэрмін на двух год, ці арышт, ці абмежаванне волі на тэрмін да трох год.

Маладзечанка знаходзіцца на волі пад падпіскай. Матэрыялы справы перададзены пракурору для накіравання ў суд.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Аўтамабіль збіў школьніцу

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 30 красавіка каля чатырох гадзін дня на вуліцы Будаўнікоў. Пацярпела дзяўчынка-пешаход.

Жыхарка Маладзечна ехала на аўтамабілі «Хонда» па Будаўнікоў ад вуліцы Хмяльніцкага ў напрамку Скарыны.

– Паблізу дома №4 яна не саступіла дарогу пешаходу – 11-гадовай дзяўчынцы, якая пераходзіла дарогу злева направа па ходу руху аўтамабіля па нерэгуляваным пешаходным пераходзе, – паведаміла карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Дзяўчынка атрымала цялесныя пашкоджанні. Дзіця шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне дзіцячай бальніцы Маладзечанскай ЦРБ. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

Гэта пятае ДТЗ за год на Маладзечаншчыне з удзелам дзіцяці. ДАІ перакананы просіць кіроўцаў няўхільна выконваць ПДР пры праездзе пешаходных пераходаў і манеўрах у дварах, а пешаходаў пры руху ў цёмны час выкарыстоўваць на адзенні флікеры і святлоадбівальныя камізэлькі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пажары загінуў мужчына

ВІЛЕЙКА

29 красавіка ў 17:00 выратавальнікам Вілейскага РАНС паведамілі пра загаранне жылога дома ў вёсцы Балашы Крывасельскага сельсавета, расказала афіцыйны прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

На месцы спецыялісты МНС заўважылі задымленне ў жылым доме. З палаючага пакоя ратавальнікі вынеслі на вуліцу ў несвядомым стане 55-гадовага гаспадара. Да прыбыцця брыгады хуткай медыцынскай дапамогі работнікі МНС рэанімавалі пацярпелага.

Медыкі, што прыбылі на месца пажару, канстатавалі смерць мужчыны.

Пажар ліквідавалі выратавальнікі. Агонь пашкодзіў маёмасць у пакоі, закурыў сцены ў доме. Прычына пажару высвятляецца. Адна з разгляданых версій – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# 12-гадовы хлопчык ратаваў з пажару брата, а сам трапіў у бальніцу

## Пакуль ён у цяжкім стане

МЯДЗЕЛ

**28 красавіка каля 20 гадзін выратавальнікам паступіла паведамленне пра загаранне жылога дома ў вёсцы Сідаравічы Мядзельскага раёна. Падраздзяленні МНС устанавілі, што гарыць адкрытым полымем аднапавярховы драўляны дом. Пажар заўважылі суседзі.**



Фота з сайта МНС.

Дом, дзе здарыўся пажар.

На момант загарання ў доме было двое дзяцей – 12 і 3 гадоў. Яшчэ адно дзіця сям'і знаходзілася ў суседзяў, яно не пацярпела. Дарослых дома не было: бацька паехаў забіраць маму з работы.

Да прыбыцця ратавальнікаў 12-гадовы падлетак выратаваў свайго меншага брата.

Адзін з відавочцаў, падбегшы да дома, убачыў, як падлетак трыме на руках дзіця. На твары і руках хлопчыка акрамя апёкаў былі парэзы. Акно кухні было разбітае.

Відавочца забраў з рук хлопчыка дзіця, пасля чаго падлетак страціў прытомнасць.

Яго забрала брыгада хуткай дапамогі з апёкамі рознай ступені цяжкасці і парэзамі рук і твару. На той момант стан быў вельмі цяжкі. Выратаванае дзіця не пацярпела.

Ліквідавалі пажар падраздзяленні МНС. Агонь знішчыў дах, маёмасць, пашкодзіў сцены жылога дома. Прычына пажару высвятляецца.

З паведамленняў Міністэрства аховы здароўя стала вядома, што Рэспубліканскі цэнтр арганізацыі медрэагавання сумесна з МНС верталётам даставілі хлопчыка ў Рэспубліканскі апёкавы цэнтр бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Хлопчыка падключылі да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх. Улічваючы цяжкасць пашкоджанняў, вырашылі працягваць лячэнне яго на рэспубліканскім узроўні.

Як паведаміў галоўны доктар бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі Мінска **Андрэй Барысаў**, на 4 мая стан пацярпелага быў па-ранейшаму цяжкі, але стабільны.

– Даручана зрабіць усё неабходнае для стабілізацыі стану дзіцяці, – распавёў Барысаў. – Цяпер галоўнае – час. Усе працэдуры праводзяцца ў поўным аб'ёме. У тым ліку і хірургічнае лячэнне. Наладжаны кантакт з калегамі з Расіі, штодня праводзяцца кансіліумы, у тым ліку і пашыраныя з удзелам вядучых расійскіх спецыялістаў. Безумоўна, дынаміка станоўчая ёсць, стан стаў больш стабільны. Уся наша праца на гэта нацэленая.

Стан пацыента з Мядзельшчыны **Аляксандр Лукашэнка** ўзяў на асабісты кантроль.

**Паводле МНС і Мінздароўя.**

## Гарэла лазня. Гаспадара забралі ў бальніцу з апёкамі

МАЛАДЗЕЧНА

2 мая ў садовым таварыстве «Вясёлка БелаўтаМАЗ», паблізу вёскі Баяры на Маладзечаншчыне, гарэла лазня памерамі 3,5х5 метраў, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

68-гадовага гаспадара забралі ў бальніцу з тэрмічнымі апёкамі галавы і рук. Агонь знішчыў дах, пашкодзіў сцены лазні знутры. Прычыну пажару высвятляюць. Дапускаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём, а менавіта пакінутыя без нагляду вуглі ў металічнай ёмістасці.

МНС нагадвае! У выпадку пажару неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112. Паведаміце пра надзвычайную сітуацыю, назавіце дакладны адрас і свае асабістыя дадзеныя. Калі няма пагрозы жыццю, а ўзгаранне на пачатковай стадыі, прыступайце, пры неабходнасці, да эвакуацыі людзей і да тушэння пажару першаснымі сродкамі пажаратушэння.

**Аддзел інфармацыі.**

## З акна паліклінікі выпала жанчына. Яна загінула

ВІЛЕЙКА

Трагедыя здарылася 1 мая ў першай палове дня.

Афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна** паведаміла, што жанчыне было 44 гады. Пра здарэнне ў Вілейскі РАУС паведамілі каля 12 гадзін дня.

На месцы працавала следча-аператыўная група. Прызначылі экспертызы. Вілейскі РАСК праводзіць праверку па факце гібелі жанчыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына выратаваў з пажару суседа

МЯДЗЕЛ

1 мая каля паловы сёмай вечара выратавальнікам паведамілі пра загаранне жылога дома ў аграгарадку Нарач (раней Кабыльнік). Не месцы спецыялісты заўважылі задымленне ўнутры жылога дома. На момант узнікнення загарання ў доме быў гаспадар, пенсіянер.

Да прыбыцця падраздзяленняў МНС мясцовы жыхар, сусед, які быў у сваім двары, адчуў пах гары, пабег да суседзяў і праз незачыненыя дзверы ўвайшоў у задымлены дом. На падлозе жылога пакоя мужчына ўбачыў гаспадара і вывеў яго на вуліцу.

У выніку пажару пашкоджаная пасцель. Прычына здарэння высвятляецца. Разглядаемая версія – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Паводле МНС.**

# «Не можам выйсці і прагуляцца»

## Смаргонец – пра «асаблівы рэжым» у ізалятарах і затрыманні падчас шпацыраў

**Сяргея Трая асудзілі за вокліч «Жыве Беларусь!» у калідоры будынка смаргонскага суда на 15 сутак. «Рэгіянальная газета» пагутарыла са смаргонцам пра яго суткі і «асаблівы рэжым» для адміністрацыйна арыштаваных за пікетаванне альбо мітынг.**

Суд над людзьмі, якія нібыта крычалі «Жыве Беларусь!» у калідоры смаргонскага суда, адбыўся ў Астраўцы.

**У апошні дзень пасяджэння людзі напісалі заяву, каб пастанову абвясцілі без іх удзелу. Таму адразу нікога не затрымлівалі.**

Сяргей Трая затрымалі на наступны дзень пасля суда разам з **Людмілай Сульжыцкай**, якой прысудзілі 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

**– З самага пачатку сказалі, што кніжкі нельга, цыгарэты ў нас будуць забіраць, кіпень не дадуць. «Асаблівы рэжым», так. Маўляў, прыйшло нейкае распараджэнне, – успамінае Сяргей.**

Сяргей кажа, што так у ізалятары і адбылося: кіпеню і цыгарэт не было, кніжкі ўсё-ткі чытаць дазволілі, але іх хавалі ад відэакамеры. Матрацы забіралі на дзень, давалі іх толькі ноччу.

– Я захацеў азнаёміцца з гэтым распараджэннем. Мне сказалі, што яно для службовага карыстання. Я ім кажу, што яны парушаюць мае канстытуцыйныя правы. Яны ўпэўненыя ў сваёй беспакаранасці.

Сяргей падзяліўся гісторыяй Людмілы Сульжыцкай, якую затрымалі ў той жа дзень. Людміла выйшла пасля смаргонскага ізалятара з насякомымі – блохамі або вошамі.

**Сяргей кажа, што застаецца толькі здагадвацца, навошта сталай жанчыне далі за кратамі матрац з блохамі або вошамі. Пасля вызвалення Сульжыцкая лягла ў бальніцу.**

Сяргей расказаў, што па гэтым службовым распараджэнні ўсіх людзей, якія праходзяць па адміністрацыйных артыкулах за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах, саджаюць па адзіночцы.

Трай знаходзіўся ў камеры адзін, бо нібыта парушыў унутраны распарадак. Смаргонец лічыць, што гэта з-за таго, што многа размаўляў і адстойваў свае правы.

**Ён не атрымліваў перадачы, бо, па словах супрацоўнікаў, парушыў унутраны распарадак. Еў ежу ў ІЧУ, але Сяргей лічыць, што яе для дарослага чалавека недастаткова.**

– Яны праводзілі так званыя прафілактычныя гутаркі са мной у ізалятары. Начальнік РАУС **Клімянкоў**, начальнік ІЧУ **Ярмолаў**…

**Казалі, што як толькі выйду ў горад неяк не так апрануты, то адразу павязуць у аддзяленне. І не дай бог, калі ў мяне будзе «Пагоня» ці сцяг. Я расцэньваю гэта, як пагрозы.**

Фота забяспечанае Сяргеем ТРАЕМ.

Сяргей Трай.

Сяргей Трай вызваліўся 21 красавіка. Ён падзяліўся гісторыяй пасля свайго вызвалення. Праз некалькі дзён сустрэўся ў смаргонскім парку з людзьмі, каб паразмаўляць і абмеркаваць апошнія падзеі.

**Яны сустрэліся, а па перыметры стаялі міліцэйскія машыны.**

Сяргей кажа, што адразу зразумелі, што прыехалі за імі, таму вырашылі разыходзіцца. Людзей забралі ў аддзел: каго на выхадзе з парку, каго ў дварах.

– Я так разумею, што ў іх мэтавая ўстаноўка: затрымліваць нас, везці ў аддзяленне на некалькі гадзін. Пазаўчора, напрыклад, Людміла Сульжыцкая выйшла пагуляць, а яе затрымалі і прывезлі ў аддзяленне, апыталі. Гэта ціск на гараджан, мы не можам проста выйсці і прагуляцца.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



У кошыках «анёлаў» – велікодныя яйкі.

# У «Надзеі» правялі традыцыйны велікодны абрад

ВІЛЕЙКА

**Раніца 2 мая ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры «Надзея», што на Вілейшчыне, пачалася своеасаблівa. Усіх, хто ішоў на снyданне, на ўваходзе ў сталовую сустракалі… анёлы.**

А дакладней, дзяўчынкі, апранутыя ў касцюмы анёлаў. Яны віншавалі са святам, кожнаму ўручалі яйка.

**А столікі ў сталовай у гэты дзень упрыгожылі зелянінай.**

– Ужо гадоў дзесяць, а можа, і болей у «Надзеі» так святкуюць Вялікдзень, – расказала карэспандэнту спецыяліст па сувязях з грамадскасцю цэнтра **Таццяна Майсак**.

**– Гэта традыцыя для ўсіх тых, хто адпачывае і папраўляе здароўе ў «Надзеі» на Вялікдзень.**

Ладзім святочны снyданак, упрыгожваем сталы. А ўсіх, хто заходзіць у сталовую, сустракаюць святочна апранутыя дзяўчынкі з кошыкамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзіцячыя садкі рэгіёна перамаглі ў абласным конкурсе

**МАЛАДЗЕЧНА ВІЛЕЙКА ВАЛОЖЫН**

На Міншчыне шосты раз правялі конкурс «Дзівосны свет дзяцінства» сярод устаноў дашкольнай адукацыі, паведамляюць ва Упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама. Перамогу атрымалі некалькі садкоў з нашага рэгіёна.

Ва ўсіх трох намінацыях адзначыўся Вілейскі дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці. За тэатральны куток у групе ўстанова атрымала другое месца, за тэатральную студыю – таксама другое, а за тэатральную пляцоўку на ўчастку – трэцяе.

Першае месца за тэатральны куток атрымаў дзіцячы сад №28 з Маладзечна, а трэцяе – цэнтр развіцця «Расінка» з Валожына.

Дыплом трэцяй ступені за тэатральную студыю – у чысцінскага садка №2.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каледж – сярод пераможцаў навучальных устаноў будаўнічай галіны

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 красавіка ў Мінску ўзнагародзілі пераможцаў штогадовага рэспубліканскага конкурсу «На лепшае дасягненне ў будаўнічай галіне Рэспублікі Беларусь».

Сёлета ў конкурсе ўдзельнічалі шэсць навучальных устаноў Міншчыны. У ліку лаўрэатаў – Маладзечанскі дзяржаўны каледж.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прыйшоў адказ настаўнікам, якія заступаліся за дырэктара СШ №5

**МАЛАДЗЕЧНА**

Паводле адказу ўпраўлення па адукацыі Маладзечанскага райвыканкама, кіраўніка ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі прызначае на пасаду і вызваляе з пасады заснавальнік згодна з артыкулам 157 Кодэкса аб адукацыі.

У дадзеным выпадку заснавальнік установы – упраўленне па адукацыі Маладзечанскага райвыканкама.

Пасада кіраўніка школы не з'яўляецца выбарнай. Адпаведна, упраўленне пакідае на пасадзе дырэктара пятай школы **Таццяну Курыловіч**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Юрась Камандзірчык працуе над адной са сваіх шматлікіх скульптур.

Фота facebook.com.

# Імя скульптара з рэгіёна ўвайшло ў кнігу «Народныя майстры Беларусі»

## А фотаздымак яго працы ўпрыгожыў выданне

**МЯДЗЕЛ**

**Днямі скульптар з курортнага пасёлка Нарач Юрась Камандзірчык займеў кнігу «Народныя майстры Беларусі».**

У выданні трыста старонак. А на іх – звесткі пра 140 умельцаў, якім спецыяльная дзяржаўная камісія прысвоіла статус «народнага майстра».

> **У кнізе ёсць таксама звесткі і пра Камандзірчыка. А фота яго драўлянай скульптуры «Буслы слукаўскія» ўпрыгожыла вокладку выдання.**

Звесткі пра майстроў пададзеныя ў раздзелах «Мастацкі тэкстыль», «Ганчарства», «Саломапляценне», «Выцінанка», «Рэдкія рамёствы». А ў раздзеле «Мастацкая апрацоўка дрэва» ад Міншчыны прадстаўленыя два майстры. Адзін з іх – Юрась Камандзірчык.

> **Аўтары адзначаюць, што скульптар з Мядзельшчыны – адзін з нешматлікіх майстроў, які адраджае і развівае традыцыйную разьбу па дрэве.**

Чытач даведваецца, што здольнасці да творчасці ў будучага майстра праявіліся з дзяцінства – маляваў, займаўся выпальваннем, разьбой па дрэве. Вучыўся на будаўніка ў Мінску, пасля – у Кобрынскім мастацкім вучылішчы.

Скульптуры Камандзірчыка сёння ўпрыгожваюць тэрыторыі шматлікіх санаторыяў Мядзельшчыны. Сярод іх – «Галіна», «Рыбак з сомам», «Рыбак з вёсламі». А «Дзед з журавам», які аздабляе санаторый «Журавачка», адкрывае раздзел кнігі, прысвечаны мастацкай апрацоўцы дрэва.

Своеасаблівая візітоўка майстра – драўляныя «вышыванкі» і «ручнікі». Імі Камандзірчык упрыгожвае шматлікія скульптуры.

Мядзельшчына, дзе творца жыве і працуе шмат гадоў, – не родная мясціна Юрася Камандзірчыка. Сам ён з вёскі Спярыжжа, што на Брагіншчыне. А з сям'ёй пераехалі на Нарач з Мазыра ў 1989 годзе. І менавіта на Мядзельшчыне, па словах майстра, у поўнай меры праявіўся яго талент разьбяра.

Сёння драўляныя скульптуры нарачанскага майстра дэманструюцца на абласных, рэспубліканскіх, замежных выставах. Ён – актыўны ўдзельнік разнастайных творчых пленэраў за межамі Беларусі.

> **А драўляны Вялес ад нарачанскага майстра стаіць на Смаленшчыне.**

Такую скульптуру ў свой час мастаку замовіў турыст, які адпачываў на Мядзельшчыне і пабачыў працы Камандзірчыка.

Юрась Камандзірчык – не адзіны прадстаўнік рэгіёна, які ўвайшоў у кнігу. У раздзеле «Выцінанка» прадстаўленыя **Вікторыя Мікітаўна** і **Лізавета Львоўна Чырвонцавы** з Маладзечна, а ў раздзеле «Лозапляценне» – **Людміла** і **Аляксандр Мускія** са Смаргоні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Вокладку кнігі ўпрыгожыла скульптура майстра з Мядзельшчыны.

Фота nationalcultures.by.

● ПАДЗЕЯ ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота belarusfilm.by.

# «У жніўні 44-га»

**Фільм Міхаіла Пташука па рамане Уладзіміра Багамолава «Момант ісціны (У жніўні 44-га)», які стварылі ў 2000 годзе на кінастудыі Беларусьфільм.**

## Сюжэт

Падзеі адбываюцца ў жніўні 1944-га. На тэрыторыі вызваленай Беларусі ў тыле савецкіх войск дзейнічаюць варожыя агенты. У эфір рэгулярна выходзіць радыёстанцыя з пазыўнымі «КАО», якая перадае шыфраваныя радыёграмы. Контрразведчыкам са СМЕРШа, траім афіцэрам на чале з капітанам Алёхіным, даручылі ў кароткі тэрмін знайсці разведгрупу праціўніка. Сітуацыя ўскладняецца тым, што ў раёне дзейнічае мноства падпольных нацыяналістычных ваенізаваных груповак, дыверсійных груп праціўніка, якія засталіся на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Абстаноўка абцяжарваецца, калі ў выніку дэшыфроўкі радыёграм становіцца вядома, што звесткі, якія перадае група, ставяць пад пагрозу поспех стратэгічнай вайсковай аперацыі ў Прыбалтыцы. Вышук радыёстанцыі з пазыўным «КАО» узяты пад кантроль Стаўкай, фактычна – асабіста Сталіным. На тэрыторыі праводзяць маштабную аперацыю з прыцягненнем войскаў НКВД. Капітан Алёхін, як і яго непасрэднае кіраўніцтва, разумее, што вайсковая аперацыя азначае правал усіх раней прынятых пошукавых мерапрыемстваў. Ён лічыць, што ў выніку аперацыі агентурную сетку не ўскрыюць, а аператыўнікаў пакараюць за правал задання. Аднак Алёхіну і яго аператыўнай групе атрымліваецца вызначыць месца для наступнага сеанса радыёсувязі «КАО» і зладзіць засаду.

## Гісторыя стварэння

Фільм Міхаіла Пташука – гэта другая спроба экранізацыі рамана. Першую, няўдалую, у 1975 годзе прыняў літоўскі рэжысёр **Вітаўтас Жалакявічус**. У экранізацыі Вітаўтаса Жалакявічуса ролю Алёхіна выканаў **Сяргей Шакураў**, Таманцава – **Анатоль Азо**, кіроўцы Хіжняка – **Барыслаў Брандукоў**, генерала Ягорава – **Бронюс Бабкаўскас**. Бабкаўскас памёр падчас здымак, і гэта паслужыла адной з прычын, чаму карціна так і не была закончаная.

## Аўтар кнігі – пра фільм

Па шэрагу прычын аўтар рамана Уладзімір Багамолаў папрасіў прыбраць сваё імя з цітраў фільма.

– У сілу бессэнсоўнасці і непрадуманых імправізацый рэжысёра аказаліся праваленымі большасць эпізодаў, у тым ліку і вузлавыя, найбольш важныя: «У Стаўцы», «У Стадоле» (эпізод з генераламі) і фінальны – «На паляне», – расказваў Багамолаў.

## Акцёрскі склад

**Яўген Міронаў** – капітан Павел Алёхін, камандзір аператыўнай групы СМЕРШ.

**Уладзіслаў Галкін** – старшы лейтэнант Яўген Таманцаў, аператыўнік СМЕРШа.

**Юры Калакольнікаў** – лейтэнант Андрэй Бліноў, аператыўнік-стажор СМЕРШа.

**Аляксандр Балуеў** – «капітан Аляксей Еламцаў», Іван Мішчанка.

**Юры Прыстром** – «Мікалай Чубараў», член групы Мішчанкі.

**Аляксандр Яфімаў** – Сяргей, радыст групы Мішчанкі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 10 МАЯ

**7.00, 15.05, 18.15, 21.00, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «КИРИЛЛ ОРЛОВСКИЙ».
**10.30** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ РАВВИНА ЯКОВА».**
**12.05, 15.10, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**12.10** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.25** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.15** «Мульт-парад». «Аладдин».
**16.45** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА СОРБОННЫ».**
**18.20** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ ЖУРНАЛИСТА».**
**20.00** Т/с **«ЗАГРУЗКА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ПУНКТ НАЗНАЧЕНИЯ».**
**22.40** Х/ф **«БОЙСЯ СВОИХ ЖЕЛАНИЙ».**

### ВТОРНИК, 11 МАЯ

**7.00, 15.05, 18.05, 21.00, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «ГОД С COVID 19».
**10.10** Х/ф **«ГРЕНЛАНДИЯ».**
**12.10** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.25** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.10** «Мульт-парад». «Аладдин-2».
**16.15, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.35** «Дети о еде».
**16.35** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА ЕЛИСЕЙСКИХ ПОЛЕЙ».**
**18.10** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ ЖУРНАЛИСТА».**
**19.50** Т/с **«ЗАГРУЗКА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«СВОЙ ЧЕЛОВЕК».**
**23.35** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ».**

### СРЕДА, 12 МАЯ

**7.00, 15.40, 18.25, 21.00, 0.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «ГОД ВИРУСА. 13 ВОПРОСОВ И ОТВЕТОВ».
**10.10** «Дети о еде».
**10.30** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ».**
**12.20** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.45, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**15.50** «Мульт-парад». «Три богатыря на дальних берегах».
**17.00** Х/ф **«МЕГРЕ РАССТАВЛЯЕТ СЕТИ».**
**18.30** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ ЖУРНАЛИСТА».**
**19.20** Т/с **«ЗАГРУЗКА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«РАДИО-МАРАФОН».**
**22.50** Х/ф **«ОЗЕРО НАДЕЖДЫ».**

### ЧЕТВЕРГ, 13 МАЯ

**7.00, 15.20, 18.40, 21.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30, 15.25** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «АЛЕКСАНДР ЧИЖЕВСКИЙ. ПЛЕНЕННЫЙ СОЛНЦЕМ».
**10.30** Х/ф **«СЕРДЦЕЕДКИ».**
**12.30** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.45** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.30** «Мульт-парад». «Большой собачий побег».
**17.00** Х/ф **«ТАЙНА ПОСЛЕДНЕЙ ГЛАВЫ».**
**18.45** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ ЖУРНАЛИСТА».**
**19.35** «Фешн is my профешн».
**19.55** Т/с **«ЗАГРУЗКА».**
**20.50** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НОМАДЛЕНД».**
**23.00** Х/ф **«ДЬЯВОЛ В ДЕТАЛЯХ».**
**1.05** «Погода».

### ПЯТНИЦА, 14 МАЯ

**7.00, 15.15, 19.45, 21.00, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «ОБВИНЯЕМЫЙ – ГЛЮТЕН».
**10.15** Х/ф **«ПРОФЕССИОНАЛ».**
**12.00** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.40** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.20** «Мульт-парад».
**16.10, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.15** «Готовь как шеф».
**16.30** Х/ф **«ТАЙНА ПОСЛЕДНЕЙ ГЛАВЫ».**
**18.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ ЖУРНАЛИСТА».**
**19.50** Т/с **«ЗАГРУЗКА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Герои комиксов на экране».

### СУББОТА, 15 МАЯ

**7.00, 16.50, 19.25, 21.20, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «СКАЗКА О ЦАРЕ САЛТАНЕ».
**8.00** Х/ф **«ЖАНДАРМ ЖЕНИТСЯ».**
**9.30, 19.20** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**9.35** «Дети о еде».
**10.00** Х/ф **«ШАКАЛ».**
**16.55** «Смотрим всей семьей». Сериал «Звездные войны: Последние джедаи».
**19.30** Х/ф **«НОЧНОЙ РЕЙС».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ИДАЛЬГО: ПОГОНЯ В ПУСТЫНЕ».**
**23.30** Х/ф **«ТРИ БИЛБОРДА НА ГРАНИЦЕ ШТАТОВ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 МАЯ

**7.00, 13.20, 20.00, 21.00, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Диномама».
**8.25** Х/ф **«ОСКАР».**
**9.50, 19.10, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.15** Программа для женщин Клуб «Баланс».
**10.25** «Удачные советы».
**10.30** Х/ф **«ТРИ БИЛБОРДА НА ГРАНИЦЕ ШТАТОВ».**
**12.30** Д/ф «ЯКУБ НАРКЕВИЧ.УКРОТИТЕЛЬ МОЛНИЙ».
**13.25** «Мульт-парад».
**14.30** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ». «ХАН СОЛО ИСТОРИИ».**
**16.45** Х/ф **«СМЕРТЬ НА НИЛЕ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«НАЕЗДНИК».**
**22.50** Х/ф **«СЛАВНЫЕ ПАРНИ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 10 МАЯ

**6.30** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**8.30** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**10.00** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.25** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**
**15.05** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**16.55** Фронтовые письма.
**17.05** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.30** В памяти своей едины.
**20.30** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ!».**
**22.30** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 11 МАЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мнения и факты.
**8.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**10.00** Х/ф **«КЛИК. С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**12.00, 15.00** Свет души.
**12.05** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**13.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ. НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**15.05** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.00** Фронтовые письма.
**17.10** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**19.30** Мая радзіма.
**20.30** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ!».**
**22.30** Мажорный лад.

### СРЕДА, 12 МАЯ

**6.30, 7.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Реликвия.
**8.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**10.00** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.40** Мультфильмы «САДКО».
**15.05** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**17.05** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**19.30** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 13 МАЯ

**6.30, 7.35** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мнения и факты.
**8.30** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**10.35** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**
**13.30** Х/ф **«АГЕНТ ДЖОННИ ИНГЛИШ 3.0».**
**15.05** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**17.05** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**19.30** Будьте здоровы.
**20.29** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 14 МАЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мая Радзіма.
**8.30** Мультфильмы «ТАЙНАЯ ЖИЗНЬ ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ».
**10.00** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**13.20** Мультфильмы «КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».
**15.05** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**17.05** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.40, 22.30** Мажорный лад.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.30** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**

### СУББОТА, 15 МАЯ

**6.30, 8.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**9.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ 2».**
**11.00** Х/ф **«ХОЛОП».**
**12.45** В памяти своей едины.
**13.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**14.50** Шанхайский полдень.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ, ЧЕМ ДРУГ».**
**19.30** Мнения и факты.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 МАЯ

**6.30** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «ДА».**
**8.00** Х/ф **«СЧАСТЬЯ! ЗДОРОВЬЯ!».**
**10.25** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**12.30** Х/ф **«2+1».**
**14.35** Мнения и факты.
**14.50** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**16.50** Х/ф **«МОЙ ШПИОН».**
**18.30** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ».**
**19.55** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ».**
**21.40** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**

## 1 Беларусь 1

**6.05** Х/ф **«ЧЕРЕЗ БЕДЫ И ПЕЧАЛИ».**
**7.55** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.15** «Зона Х». Итоги недели.
**10.50** Маршрут построен.
**11.30** «Вопрос номер один».
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«СОНАТА ДЛЯ ГОРНИЧНОЙ».**
**14.25** Один день.
**15.15** Вокруг планеты.
**15.55** «Повод есть».
**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**16.45, 19.10** Х/ф **«ВХОДИТЕ, ЗАКРЫТО!».**
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.30** Х/ф **«Я НИКОГДА НЕ ПЛАЧУ».**

## 2 Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 19.35** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**9.05** Анимация для всей семьи «Ральф против Интернета».
**10.50** «Три первых свидания». Реалити-шоу.
**11.35** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ: ПЕСКИ ВРЕМЕНИ».**
**13.35** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.
**14.30** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.55** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.45** Х/ф **«Я — ЧЕТВЕРТЫЙ».**
**20.10** «Орел и Решка 3». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«КАК СТАТЬ ПРИНЦЕССОЙ».**
**23.20** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## 3 Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».
**8.00, 14.00** Навіны культуры.
**8.20** «Опять двойка». Мультфільм.
**8.40** «Каралева бензакалонкі». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Лянуха і бульбяныя клёцкі.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45** «Народны майстар». Валерый Мінкоў (разьбярства).
**12.15** «Блізня «. Мастацкі фільм.
**14.20** «Мы вам жадаем». Канцэрт з удзелам ансамбляў «Свята» і «Бяседа».
**15.15** «Сабачае сэрца». Мастацкі фільм.
**17.30** «Кадры жыцця». Оперная спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Алена Шведава.
**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм сёмы «Салёны вецер» [СТ].
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Белыя росы». Мастацкі фільм [СТ].
**22.35** В.Дранько-Майсюк. «Пясняр». Музычны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.30** К 130-летию Михаила Булгакова. Премьера. «Полёт Маргариты».
**10.25** ОНТ представляет: «Народный повар. Как это было».
**11.00** «Видели видео?».
**11.40** Х/ф **«БЕЛЫЕ РОСЫ».**
**13.20** Х/ф **«ФОТО НА НЕДОБРУЮ ПАМЯТЬ».**
**15.15** «Тодес». Праздничное шоу.
**16.20** «Тодес». Праздничное шоу Продолжение.
**17.40** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!».
**19.15** «Точь-в-точь». Лучшее.
**20.00** «Контуры».
**21.20** «Точь-в-точь». Лучшее Продолжение.
**23.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.55** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «В поисках Дон Кихота».

## СТВ

**6.35, 0.05** «Пища богов».
**9.05** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** «Знаете ли вы что?».
**12.45, 13.40** Документальный проект.
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**14.15, 16.40** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**19.30** «Неделя».
**21.05** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.
**5.20** Х/ф **«ВАС ОЖИДАЕТ ГРАЖДАНКА НИКАНОРОВА».**
**6.50** «Секретные материалы». Мифический князь.
**7.25** Х/ф **«БАЛЛАДА О ДОБЛЕСТНОМ РЫЦАРЕ АЙВЕНГО».**
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«НЕМНОГО НЕ В СЕБЕ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**2.00** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**4.15** Т/с **«ТАЛЬЯНКА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.15** Беларусы.
**6.55** Сегодня. Главное.
**7.05** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «24 вопроса».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.20** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».
**10.55** «Первая передача».
**11.25** «Чудо техники».
**12.15** «Дачный ответ».
**13.15** «НашПотребНадзор».
**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ОЖЕРЕЛЬЕ НЕФЕРТИТИ».**
**16.15** «Следствие вели…».
**17.55** «Ты не поверишь!».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** Т/с **«ЛИНИЯ ОГНЯ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Дмитрий Певцов, Данила Козловский и Алина Сергеевав фильме «Покушение».
**10.35** ПРЕМЬЕРА. «Большая переделка».
**11.40** Х/ф **«НЕЛЮБИМАЯ».**
**15.00** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».
**16.35** Т/с **«ВРЕМЯ ДОЧЕРЕЙ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.05** «В людях».
**21.45** Х/ф **«СТЮАРДЕССА».**
**23.25** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**0.05** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Враг у ворот. **7.15** Легенды осени. **9.30** Век Адалин. **11.30** Эдвард руки-ножницы. **13.15** Волшебная страна. **15.05** Тайное окно. **16.40** Морской бой. **19.00** Водный мир. **21.15** Невозможное. **23.10** Семь жизней. **1.10** Выбор капитана Корелли. **3.15** Маленький Манхэттен.

### TV1000 ACTION

**5.10** Клуб анонимных киллеров. **7.10** Континуум. **9.10, 3.10** Соломон Кейн. **10.50** Рейд. **12.35** Рейд 2. **15.10** Убийца 2. Против всех. **17.15** Девять ярдов. **19.00** Девять Ярдов 2. **20.40** 16 кварталов. **22.20** Заложник. **0.15** Другой мир: Восстание ликанов. **1.45** Другой мир: Пробуждение.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.20, 23.35** Чемпионы. **6.55, 1.15** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **8.45, 4.25** Один вдох. **10.25** Географ глобус пропил. **12.35** Любовь в большом городе. **14.10** Любовь в большом городе 2. **15.45** Любовь в большом городе 3. **17.15** Гуляй, Вася! **19.00** Гуляй, Вася! Свидание на Бали. **20.40** Любит не любит. **22.10** Блокбастер. **2.50** Рубеж.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.30, 10.15, 11.15** Т/с **«КАСЛ». 12.00** Х/ф **«МИСТЕР И МИССИС СМИТ». 14.30** Х/ф **«МАЛАВИТА». 16.45** Х/ф **«КОЛОМБИАНА». 19.00** Х/ф **«ЗНАЧИТ, ВОЙНА». 21.00** Х/ф **«МОЙ ПАРЕНЬ — КИЛЛЕР». 23.00** Х/ф **«ВРЕМЯ ПСОВ». 0.45** Х/ф **«УБИЙЦА». 2.45** Х/ф **«САБОТАЖ». 4.15, 5.15** Т/с **«БАШНЯ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** «Развод и девичья фамилия». **12.00, 20.00, 4.00** «Поздний срок». **13.00, 21.00, 5.00** «У каждого своя война». **14.00, 22.00, 6.00** «Измена». **15.00, 23.00, 7.00** «Адвокатессы». **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.30** Х/ф **«2+1». 4.20, 14.05** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА». 5.55, 15.45** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА: ОПЕРАЦИЯ ЯСТРЕБ». 8.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 10.05** Х/ф **«БИБЛИОТЕКАРЬ: В ПОИСКАХ КОПЬЯ СУДЬБЫ:». 11.50** Х/ф **«КАК ЗНАТЬ...». 17.45** Х/ф **«СУТЕНЕР». 19.30** Х/ф **«ГОД СВИНЬИ». 20.55** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 22.45** Х/ф **«ХОРОШИЙ ДОКТОР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 20.00, 21.10, 22.10, 23.10** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 1.45, 2.45, 3.45, 4.45, 5.40, 6.40, 7.40, 8.40** Т/с **«ФРОНТ». 9.35** Т/с **«ВЛАСТЬ СТРАХА». 11.50, 12.55, 13.55, 14.55, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«КОМИССАРША».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 1.30** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«РЭТЧЕТ И КЛАНК: ГАЛАКТИЧЕСКИЕ РЕЙНДЖЕРЫ». 14.35** Т/с **«ПОГНАЛИ». 16.50** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 19.00** Х/ф **«ХЭППИ-ЭНД». 21.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.20** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.30** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Настольный теннис. Командный чемпионат Беларуси. Мужчины. Женщины. Финалы. **8.30** Волейбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Женщины. Беларусь — Швейцария. **10.25** Теннис. ВТА. Рим. 1/2 финала. **12.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Сегед. **13.50** Футбол. Чемпионат Англии. Кристал Пэлас – Астон Вилла. **15.50** Теннис. ВТА. Рим. Финал. **17.00** Волейбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Мужчины. Беларусь — Норвегия. **18.30, 0.20** Спорт-центр. **20.20** Футбол. Беларусбанк — Чемпионат Беларуси. 9-й тур. Динамо (Брест) — ФК Гомель. В перерыве Спорт-центр. **22.20** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 9-й тур. Обзор. **23.05** Итоги недели. **23.50** Пит-стоп.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 11.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Восьмой этап. **1.00** Велоспорт. Мальорка. Второй этап. **1.30, 2.00** Олимпийские игры. All Around. **2.30** Теннис. Australian Open. Женщины. Финал. **5.30, 8.00** Теннис. Australian Open. Мужчины. Финал. **7.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Второй этап. **9.30** Велоспорт. «Тур Венгрии». Четвертый этап. **10.30, 23.00** Теннис. Australian Open. Обзор. **12.40** Велоспорт. Мальорка. Третий этап. **13.10, 20.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Девятый этап. **18.10** Велоспорт. Tro Bro Leon. Мужчины. **20.00** Олимпийские игры. Надя Команечи vs. Симона Байлз. **22.00** Велоспорт. «Тур Венгрии». Пятый этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 14.00, 1.25** Мото тест-драйв. **6.15, 17.25** Под микроскопом. **6.30, 17.40** Куда уходит детство. **6.40, 7.25, 17.55, 19.05** Аварийная ситуация. **6.55, 18.15** Автовинтаж. **7.40, 10.25, 13.00, 16.30, 18.45, 22.40, 1.45, 4.00** Итоговые новости. **7.55, 13.55** Обновление. **8.10** Резьба по стали. **8.40** Испытание на прочность. **9.15** Все включено. **9.50** Комплектация. **10.45** Автолайф. **11.10** Самообслуживание. **11.30, 19.30, 22.55** Автомобильные музеи мира. **12.10, 20.05, 23.50, 4.15** Вечер с Пикуленко. **13.20, 0.55** От Кавказа до Аравии. **14.20, 2.00** Тест на «Драйве». **15.30, 20.55, 5.10** Эконом-тест. **15.50** Легенды автопрома. **16.45, 21.55** Советы юриста. **19.25, 21.45, 5.50** Наезд! **21.15, 5.25** Кругосветка по бездорожью. **23.30, 0.35** Вторичка. **3.00** Сити-тестер. **3.30** Тебе водить! Тебе лечить!

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.30** Речные чудовища. **10.20** Винтажные электромобили. **11.05** Снос в Австралии. **11.55, 22.55** Бирюзовая лихорадка. **12.40, 13.30, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30, 21.20, 22.05** Австралийские золотоискатели. **23.40, 0.25, 1.15, 2.00, 2.50, 3.35, 4.25** Ледовые викинги. **5.10** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.15, 7.00, 7.45** Мифические существа. **8.30** Расшифровка тайн. **9.15, 10.00, 10.50, 14.55, 15.45, 1.40, 2.25** Очень странные экспонаты. **11.40** 5000 лет истории Нила. **12.30** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **13.20, 14.05** Лондон: 2000 лет истории. **16.35, 17.30** Сканирование Нила. **18.25** Падение империи. **19.15** Последний поход викингов. **20.10** Восход Османской империи. **21.00, 21.50, 22.50** Тайная история рыцарей Храма. **23.45** Невидимые города Италии. **0.40** Вечные Помпеи. **3.15, 4.05** Музейные тайны. **4.50** Запретная история. **5.35, 5.55** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.10** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **7.00** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **7.55, 8.55, 10.00** Огромные звери: последние из великанов. **11.05, 12.10** Раскопки на полюсах. **13.20** Опасная Земля. **14.25, 15.30, 16.30, 17.35, 18.40** Загадочная планета. **19.40, 20.45, 21.50, 22.55, 0.00** Речные чудовища. **1.05** Невероятные встречи с животными. **1.50** Мутации погоды. **2.35** Выживание в дикой природе. **3.30** В зоопарке Таронга. **4.15** Спасение диких медведей. **4.40** Постыдные проблемы питомцев. **5.05** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Суперсооружения Третьего рейха. **6.45, 7.05** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **7.35** Машины:Разобрать и продать. **8.20, 9.15** Панорама 360. **10.05, 10.55** Дикий тунец. **11.50, 12.45** Activate: глобальное гражданское движение. **13.35, 14.25, 15.20** Неисследованные глубины. **16.10, 16.55, 17.45, 18.35** Атлас проклятых мест. **19.20, 20.10** Поймать контрабандиста. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.40** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **23.30** Граница. **0.20, 1.10** Прорыв. **2.00, 2.45, 5.00** Авто-SOS. **3.30, 4.15** Национальные парки Америки. **5.45** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 14.05, 22.05, 2.05** Андрей Старков и его команда. **6.30, 10.25, 18.25, 2.35** Сам себе охотник. **7.00, 10.55, 14.50, 18.55, 23.05, 3.05** Нахлыст без границ. **7.25, 11.25, 15.20, 19.25, 23.35, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 4.00** Рыбалка сегодня XL. **8.30, 0.35, 4.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.00, 12.55, 16.55, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 13.30, 1.40, 5.30** Готовим на природе. **11.55, 21.35, 0.05** Рыбалка 360. **12.25, 16.25, 20.30** Рыболовная школа для взрослых. **13.45, 1.55, 5.45** Давай зарубимся! **14.30** Кодекс охотника. **15.50, 20.00** Рыболовные путешествия. **17.25** Поехали на рыбалку! **17.55** Ружейная охота. Первые шаги. **21.00, 1.05** На рыбалку с охотой. **22.35** Охота в Удмуртии.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.30, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 23.10** Секреты стиля. **7.30, 11.30, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 0.50** Сельсовет. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Милости просим. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **15.05, 19.05, 3.20** Побег из города. **16.40, 20.40, 4.50** Детская мастерская. **2.05** Особый вкус.

Фота Настассі УТКІНАЙ.







# У Маркаве зладзілі велікодны абрад «Лука»

## Ён можа атрымаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці

**Гэты старадаўні абрад праводзяць для таго, каб адзінокія людзі адшукалі пару.**

Падобныя абрады захаваліся ў адзінкавых населеных пунктах. Маркаўскі на Маладзечаншчыне мае свае адметнасці, і адрадзілі традыцыю ў 2010 годзе дзякуючы айцу **Мікалаю Пяшко** і быламу кіраўніку народнага фальклорнага ансамбля «Маркаўчанка» пры мясцовым Доме культуры **Веры Дорах**.

Назва абраду паходзіць ад наймення ўрочышча ракі Гадзея. Менавіта там традыцыйна ладзілі карагод.

**Сёлета пляцоўку арганізавалі каля царквы – «луку» водзяць, як толькі выходзяць з дзённай велікоднай службы.**

Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны прыняла рашэнне аб неабходнасці надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці велікоднаму карагоду, які бытуе ў аграгарадку Маркава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці і праводзіцца на першы дзень Вялікадня.

### Як адбываецца абрад

У цэнтры карагода ставяць траіх дзяцей, якіх называюць «качанамі», якія сімвалізуюць урадлівасць. Вакол іх васьмёркай і водзяць карагод, а таксама спяваюць песню. Разам з дзецьмі ў цэнтры карагода стаяць халастыя хлопцы, якія дзякуючы абраду спадзяюцца прыцягнуць пару.

Пра іх таксама спяваюць у абрадавай песні і называюць «гардапышнымі малойчыкамі». А пасля карагода гэтыя халасцякі аддзячваюць удзельнікам пачастункамі.

**Пасля карагода шмат хто з удзельнікаў ідзе ў валачобнікі, каб павіншаваць маркаўчан з Вялікаднем.**

### «Аж слёзы на вачах»

Частка мясцовых жыхароў не далучаецца да карагода, але назірае і абмяркоўвае дзею. Мясцовая жыхарка **Тамара Эгерт** (дзявочае – Цярэшка) падзялілася ўражаннямі:

– Ой, помню, як абрад праводзілі яшчэ тады, калі нам нельга было да царквы хадзіць. Абрад быў увесь час, яго не забаранялі. І царкоўныя, і савецкія ставіліся да яго спакойна. Царква ж не зачынялася. Усім было цікава! Нас жа тады мора было ў вёсцы, падшываванцаў. Гэта абрад для старога кавалера, які не хоча жаніцца, які кажа, што лепш утаплюся, але не жанюся. Пяюць, каб жаніць яго. Помню, што адзін такі кавалер усё ж не ажаніўся. Гадоў 20 абрад не праводзілі, а пасля зноў пачалі. Дык сёння аж слёзы на вачах, як гляджу. І я далучылася б да карагода, але спазнілася, госці былі. Ой, такі душэўны пад'ём!



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

Фота з асабістай старонкі дзяўчыны vk.com/nast_voytovich.

Па словах Анастасіі Вайтовіч, палітыка ёй заўсёды была цікавай. Аднак асаблівая зацікаўленасць прыйшла летам 2020 года.

# У Мінску затрымалі віляйчанку, якая прыйшла паставіць свечку ў касцёл

## Ёй далі 15 сутак

ВІЛЕЙКА

**26 красавіка дзяўчына падышла да касцёла на плошчы Свабоды ў Мінску, каб паставіць свечку ў памяць пра ахвяр чарнобыльскай трагедыі. Там яе і затрымалі.**

На Анастасію склалі пратакол за ўдзел у несанкцыянаваным пікетаванні шляхам «выкрыквання правакацыйных лозунгаў каля праезнай часткі». 27 красавіка ў Ленінскім судзе Мінска разгледзелі яе справу.

**На судзе Анастасія распавяла, што прыйшла да касцёла на плошчы Свабоды ў Мінску, каб паставіць свечку.**

Але касцёл ужо быў зачынены, таму дзяўчына пастаяла некалькі хвілін каля яго і збіралася сыходзіць. У гэты момант да яе падышоў супрацоўнік АМАПа і папрасіў паказаць дакументы, пасля чаго ёй прапанавалі праехаць у РУУС.

**Суддзя Юлія Шут палічыла жаданне паставіць свечку несанкцыянаванай акцыяй і арыштавала Анастасію на 15 сутак па артыкуле 24.23 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях.**

Пра віляйчанку **Анастасію Вайтовіч** мы пісалі летась у лістападзе. Тады дзяўчына прызналася, што, нягледзячы на выключэнне з лінгвістычнага ўніверсітэта, пра свой удзел у пратэстах не шкадуе.

Карэспандэнту Насця расказала пра сваю пазіцыю, пра тое, як была актывісткай і выдатніцай у вілейскай гімназіі «Логас», пасля заканчэння якой атрымала залаты медаль. Тады Насця адзначала, што вельмі марыла паступіць у лінгвістычны. І зрабіла гэта з вялікім запасам балаў. Але за ўдзел у студэнцкіх акцыях, да якіх яна далучылася на другім тыдні вучобы, віляйчанку выключылі з ВНУ.

– Я ж распланавала сабе жыццё наперад: думала, буду вучыцца, авалодаю замежнымі мовамі, пасля атрымаю другую вышэйшую адукацыю на юрфаку.

**І тут, у адно імгненне, маё дэталёва распланаванае жыццё паламалася, – падзялілася падчас інтэрв'ю Настасся.**

Нягледзячы на выключэнне з універсітэта і зламанае ў сутычцы з АМАПам рабро, дзяўчына сказала тады, што з'язджаць з Беларусі не збіраецца проста таму, што гэта яе радзіма.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Двух жыхароў Радашкавічаў асудзілі на 1 год і 9 месяцаў калоніі за блакаванне чыгункі

**3 мая ў судзе Маладзечанскага раёна вынеслі прысуд па «рэйкавай справе». Двух мужчын з Радашкавічаў асудзілі за блакаванне чыгункі ў лістападзе 2020 года.**

Судовае пасяджэнне вяла суддзя **Вольга Дубовік**. Дзяржаўным абвінаваўцам выступіў **Святаслаў Цітовіч**.

Жыхароў Радашкавічаў **Сяргея Шабуню** і **Паўла Федукевіча** абвінавачвалі па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса:

- частка 1 артыкул 14 «Замах на злачынства»;
- частка 1 артыкул 309 «Наўмыснае прывядзенне ў непрыдатнасць транспартнага сродку або шляхоў зносін».

11 лістапада 2020 года Шабуня і Федукевіч разам выпівалі, пасля вырашылі паспрабаваць схему замыкання рэек. Планавалі зрабіць гэта на чыгунцы ў Вязынцы. Узялі з сабой іржавы трос, паехалі ў Вязынку разам на аўтамабілі Шабуні.

**На чыгуначныя пуці накінулі тросік, пачалі сыходзіць, калі зразумелі, што замыканне не адбудзецца, бо трос іржавы.**

На месцы здарэння іх затрымалі супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС. Па матэрыялах справы, блакавання чыгуначных пуцей не адбылося, чыгунка шкоды не панесла.

**Абодва падсудныя прызналі віну.**

3 мая 2021 года суддзя Дубовік прызнала Шабуню і Федукевіча вінаватымі. Абодвух абвінавачаных пакаралі 1 годам і 9 месяцамі зняволення.

Настасся УТКІНА.

# Якія дзівацтвы чакаюць падчас выхавання дзяцей

СМАРГОНЬ

*Заканчэнне. Пачатак у №18.*

**Усе мы родам з дзяцінства, усе вучыліся пазнаваць навакольны свет. І кожны пасвойму, у кожнага быў свой адметны шлях і найперш – у сям'і.**



Сям'я аўтара Яўгеніі Кулевіч. Справа – унучка Галя з сынам Мікіткам, злева – унучка Таццяна з дачкой Жэнькай.

Я дзецям не дазваляла чапаць паперы, казала, што гэта дакументы. Дачка Лена рана засвоіла, што такое дакументы, што яны павінны быць у пашане і браць іх можна толькі пры патрэбе. Часам яна бярэ які лісток і кажа:

– А гэта «куменці».

***

А як цікава Лена ўтварала словы! Кажам, каб падняла што з падлогі – «паднімі», а яна пасля:

– Мама, я «падніміла».

***

Бярэ што бруднае ў рукі, а я ёй кажу: «Вон выкінь, не бяры». А яна бярэ другі раз і кажа:

– Мама, а гэта «вонаць».

***

Прынёс муж кулёк цукерак з магазіна і адразу дае Ленцы. У нас была якраз суседка. А я прывучыла дзетак з маленства, каб прысмакі дзялілі ўсім членам сям'і пароўну. Вось і цяпер яна ўжо будзе дзяліць цукеркі. А яшчэ малая зусім, толькі хадзіць пачала.

– І пра цётку не забудзься, яна таксама хоча, – папярэджваю.

А цукеркі – буйны гарошак. Дзеліць цукеркі – цётцы, маме, тату, сабе. Глядзіць у пакет – а там засталася адна.

– Што ж яна цяпер рабіць будзе? – пытаецца суседка.

А Ленка ў кожнага цукеркі забірае і кладзе зноў у пакет. Пасля бярэ па адной і раздае, ёй засталася апошняя. Суседка пакаштавала, пахваліла, што смачныя, а астатнія аддала і сказала, што мае грошы і адразу пойдзе сама купляць сабе і дзеду свайму.

***

Была ў мяне па падпісцы «Детская энциклопедия». Дзеці вельмі яе палюбілі, прасілі даць пачытаць. А чытаць жа яшчэ і не ўмелі. Лена просіць:

– Мама, дай нам «анцыю клапедыю».

Дастаю з шафы том, кладу на табурэтку. А яны разгортваюць, тыкаюць пальчыкамі і нешта размаўляюць паміж сабой. Нечым жа іх вабіла тая кніжка.

***

Леначка ўжо пайшла ў першы клас. Школа была за рачулкай, хадзілі праз масток. Ідзём раніцай. Каля рэчкі стаіць купкай абскубеныя гусі. Як гусі пачынаюць ліняць, гаспадыня скубла іх дзеля пер'я. Гусі стаяць, не адважваюцца ў ваду лезці.

– Мамачка, а хто гэта гусей абскуб?

– Гаспадыня, – кажу.

– А за што? Што яны нарабілі?

Вось якое ўяўленне – што такое ўчыніць можна толькі за зробленую шкоду.

***

Лена пайшла ў другі клас, вучылася на выдатна. Абралі камандзірам акцябрацкай зорачкі. Важатая павезла гэтых камандзіраў на семінар у раён. Дала Лене з сабой тры рублі, каб купіла, што захоча. І што ж яна прывозіць? Пакет «Апетытнага чаю». Прачытала яго склад (дачка яго не чытала), а там адзін са складнікаў – палын.

– І дзе ты гэта купіла?

– У аптэцы. Папрасіла ў важатай, каб у аптэку схадзіць паглядзець.

Вось цікава, і што гэта яе ў аптэку пацягнула. А цяпер яна – старшы правізар.

***

Мая ўнучка Галька часта ў мяне была, цікавілася прыродай, любіла жывёл, ведала ўсіх жыхароў вёскі, гуляла з дзецьмі, амаль кожны дзень хадзіла на экскурсію на кароўнік. Аднойчы яна мне кажа:

– Хочаш, я табе назаву ўсіх, хто жыве ў якой хаце?

– Ну, назаві.

Называе ўсіх, як кажуць, па-вулічнаму, усіх ведае. Паказвае на дом, дзе жыў калгасны асемянатар, кажа:

– А тут жыве прэдсядацель кароўнік.

***

Аднойчы прыходжу пасля дожджыку з агарода і кажу мужу:

– Ужо агурочкі ў нас узышлі.

Галька падхопліваецца:

– Я хачу паглядзець.

Ідзём. На градзе ні травінкі, толькі шырокія лісцікі агуркоў. Галя кажа, што не бачыць агуркоў. Паказваю, а яна:

– Дык гэта ж трава!

***

А якія ж назіральныя дзеткі, усё заўважаюць. Падыходзіць да мяне ўнучачка Танечка і кажа:

– А якія ж прыгожыя ў свінак вочы!

А я ніколі і не заўважала, якія там у свінак вочы. Летам у нас дзверы ў хляве адчыненыя, а свінкі паставяць капыткі на загарадку і стаяць так, чакаюць ежу. А Танечка за імі назірае. Панесла я свінкам ежу і паглядзела. І праўда, прыгожыя – сінія-сінія, як пацеркі.

***

Аднойчы Таня адрэзала кавалак хлеба і ідзе на вуліцу. Так мы рабілі ў дзяцінстве, а цяперашнія дзеці ж пусты хлеб не ядуць.

– Нашто ты хлеб на вуліцу бярэш?

– А ў мяне там на пашы знаёмая каза ёсць, то яна хлеб любіць.

***

Не адстае ў выказваннях і праўнучак Мікітка. Ён ведае шмат казак, цікавіцца прыродай, усё заўважае. Пайшлі раз абіраць парэчкі. Апёкся аб крапіву:

– І хто гэта крапіву пасадзіў?

І далей сам дадумвае: напэўна, гэта Баба Яга зрабіла.

***

Пайшлі капаць маладую бульбачку. Тлумачу, як пасадзіш у зямельку бульбінку, пад восень вырасце столькі, што на абед сям'і хопіць. Дзівуецца хлопчык і кажа:

– А калі я сваю машынку пасаджу, таксама машынкі вырастуць?

– Не, машынка нежывая, а вырастае толькі жывое. Зноў дзівуецца, што раслінка жывая. Пасадзіў у вазон гарошыну і радуецца, як з зямлі вылезла сцяблінка.

***

Нарадзіліся кацяняткі. Кожны мае свой колер.

– А чаму толькі адно кацяня па колеры як кошка. А астатнія іншага?

– Кот можа быў іншага колеру.

– А прычым тут кот? – пытаецца малы.

***

Пайшлі з Галяй у магазін – натаптаўся, замучыўся. Зайшлі ў трамвай, а там поўна людзей.

– Мама, хачу сесці, – кажа малы.

– Хутка дамоў заедзем. Бачыш, многа людзей, месцы занятыя.

Уздыхнуў ён і сеў у трамваі на падлогу. І тут адразу некалькі чалавек усталі і прапанавалі месца.

***

Кожнае дзіця пасвойму рэагуе на свет, параўноўвае. Сынаў Сярожа жыў у Маладзечне, часта быў у Ратамцы – там бабуля па маме. Аднойчы вязу яго да сябе. А ісці два кіламетры ад шашы, ужо восень, прыцямнела. Справа відняецца кароўнік.

– А вось і электрычка прыйшла, а чаму мы на ёй не прыехалі?

І сапраўды, здалёк кароўнік у прыцемках нагадвае электрычку.

***

Сусед падвёз яго верхам на кані, дужа спадабалася. Просіць:

– Бабулька, купі каня!

– Мне толькі каня і не хапае, – адказваю.

– Ну вось, бачыш, як добра. Я табе і падказаў, што каня табе не хапае, – успрымае ўнук за чыстую манету.

***

Сярожа пайшоў вучыцца ў маладзечанскую школу мастацтваў. Пытаюся, ён хоча запісацца на маляванне ці музыку. Адказвае:

– Я ўжо сам думаў і вырашыў, што пайду на музыку. А то пэцкайся гэтымі фарбамі. А як навучуся, зайграю дома, усім стане жыць весялей.

***

Прыходжу да іх, а Сярожа прапаноўвае:

– Давай я табе сыграю і праспяваю.

Радуюся, уся ў чаканні, а ён цягнецца да зачахлёнай бацькавай гітары. Яму хочацца пайграць, а тут і нагода. Расчахліў, кладзе на тоненькія каленцы інструмент, пальчыкамі перабірае струны і спявае песеньку, якую тут жа склаў:

– Пайшла мама ў магазін і купіла шакаладку!

Так што назірайце за дзецьмі, запісвайце іх выказванні. Мілы і вясёлы свет дзіцяці. Успомніш выпадак – і адчуеш дзіцячае цяпло, шчырасць, давер, іх дасціпнасць і назіральнасць, асаблівае разуменне свету.

**Яўгенія КУЛЕВІЧ,**
**вёска Сялец**
**Смаргонскага раёна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

# Пра Асвенцым, Дахаў і жыццё у Германіі

## Жыхарка Асаўца прыгадвае ваеннае мінулае

**Недалёка ад Краснага ёсць вёска Асавец. Тут жыве 97-гадовая Лідзія Дарафееўна Мушавец (Літвінчук). Сюды, на радзіму мужа, яна, дзяўчына з Палесся, прыехала ў 1946 годзе. А да гэтага былі роднае Палессе, польскі Асвенцым, нямецкі Дахаў і трохгадовая праца на нямецкага баўэра.**

МАЛАДЗЕЧНА

Так атрымалася, што ў Другую сусветную Лідзія Дарафееўна разам са сваім будучым мужам **Уладзімірам Міхайлавічам Мушаўцом** хадзілі літаральна аднымі і тымі ж сцежкамі: Асвенцым, Дахаў, працоўная біржа ў Мюнхене. А пазнаёміліся толькі пасля вайны на Палессі. Але пра ўсё па парадку.

### Як пачалася вайна для Лідзіі Літвінчук

Нарадзілася Лідзія Дарафееўна ў 1924 годзе ў вёсцы Заводны Востраў на Мазыршчыне. А карані яе – з Украіны, з-пад Белай Царквы, што ў Кіеўскай вобласці. Там яе дзед Андрэй Літвінчук прадаў сваю зямлю ў і 1903 годзе з сям'ёй перабраўся на Палессе. Набыў 25 гектараў таннай забалочанай і зарослай зямлі, якую сям'я стала апрацоўваць.

А ў пачатку мінулага стагоддзя адзін з сыноў Літвінчука, Дарафей, ажаніўся з Аленай Бягляк. У іх і нарадзілася мая гераіня. У 1939 годзе яна скончыла Махнавіцкую сямігодку і паступіла ў Мазырскае настаўніцкае вучылішча на настаўніцу пачатковых класаў. Годам раней гэта вучылішча скончыла і старэйшая сястра Лідзіі, **Варвара**.

Пра вайну Лідзія даведалася на ваенных зборах, якія кожнае лета ладзілі ў вучылішчы. 22 чэрвеня 1941 года кіраўніцтва лагера пастроіла ўсіх навучэнцаў і абвясціла, што пачалася вайна. Лідзія з сяброўкамі некалькі дзён дапамагалі на станцыі ваенным і цывільным адгружаць у вагоны дакументацыю, стратэгічнае абсталяванне. Пасля Лідзія падалася да роднай хаты, дзе прыняла кіраўніцтва магазіна ад стрыечнага брата **Міколы Старавойтава**. Сам Мікола падаўся ў ваенкамат. Хутка ў Махнавічах стварылі партызанскі атрад, у які залічылі хлопца. Дарэчы, пасля вайны Мікола стаў вядомым скрыпічным майстрам, беларускім Страдзіварыем.

У вайну па заданні партызан Лідзія вывозіла са сваёй крамы ўсё: ад запалак і солі да цвікоў і паперы, у лес, у канспіратыўнае месца.

У вёску немцы здолелі дабрацца толькі ў снежні, як балота цалкам замерзла. А ў пачатку Новага года партызаны знянацку наляцелі на камендатуру і забілі немцаў разам з іх камендантам. Пасля немцы доўга сюды не прыходзілі. Многія вяскоўцы запісаліся ў партызанскія атрады.

### Тры гады працавалі на гаспадарку нямецкага фермера

Зноў наляцелі акупанты вясной 1942, калі партызаны пакінулі вясковыя кватэры і сышлі ў лес. Лідзіі і яе пляменніцы **Вользе Літвінчук** далі 15 хвілін на зборы. Пешшу прыйшлі ў Ельск у спецлагер для часовага ўтрымання зняволеных перад адпраўкай у Германію. Трымалі там доўга, хатняя ежа сканчылася. Неяк да дзяўчат прыйшоў сваяк, дзядзька **Ілюк**, які жыў у Ельску. Ён перакінуў праз агароджу пакунак з ежай і цёплымі рэчамі і паабяцаў, што выкупіць іх. Але не паспеў. На наступны дзень зняволеных загрузілі ў вагоны-цялятнікі і прывезлі ў польскі Асвенцым. Тут частку людзей пакінулі, а іншую, у тым ліку палескіх дзяўчат, адправілі далей, у Германію.

Лёс закінуў іх у Баварыю, у канцлагер Дахаў, які раздзяляўся на лагер смяротнікаў і працоўны. Лідзія і Вольга трапілі ў працоўны. Упершыню пасля доўгага перапынку паелі тут аўсянай поліўкі. У гэтым канцлагеры таксама доўга не затрымаліся. Праз суткі на машынах дзяўчат перапавілі ў Мюнхен у мураваны трохпавярховы будынак з шыльдай Arbeitsamt (працоўная біржа). Адсюль Лідзію з Вольгай забралі ў мястэчка Дайзенгофен да фермера Карла Мідэрмаера. Яны сталі працаваць на вялікай гаспадарцы. Гэта 36 дойных кароў і чатыры вялікія быкі, не лічачы цялушак і цялят. Для апрацоўкі палеткаў было шасцёра коней.

Працоўны дзень пачынаўся з чатырох гадзін раніцы. За тры гадзіны трэба было пачысціць увесь кароўнік ад гною. У сем – сняданак. А восьмай усе работнікі і члены сям'і ішлі на працу ў поле. Дома заставалася толькі гаспадыня, фраў Катрын. Яна гатавала ежу на ўсіх у адным кацялку. Апоўдні – абед і зноў у поле. Ад 16:00 і да 22:00 Лідзія з Вольгай зноў чысцілі і кармілі кароў. Пасля – вячэра і спаць, там жа, на кароўніку, у тамбуры з сенам.

Спярша гаспадары ставіліся недаверліва да дзяўчат, але тыя працавалі адказна. Гаспадар Карл заўважыў гэта. Праз год у Лідзіі і Вольгі з сям'ёй баўэра склаліся сяброўскія адносіны. Дачка гаспадара, фрэйлен Онэ была аднагодка з дзяўчатамі, другая дачка, фрэйлен Катрын, – на два гады маладзейшая за іх. За год усе гастарбайтары ўжо добра вывучылі нямецкую. Сям'я баўэра цікавілася жыццём у СССР, беларускай прыродай, людзьмі і іх традыцыямі. Лідзія, якая была добрай апавядальніцай, расказвала ім пра ўсё. Палескія дзяўчаты знешне сталі сапраўднымі фройлен. Пра гэта паклапаціліся маладыя немкі, з дазволу бацькоў падзяліўшыся сваім гардэробам.

І ўсё ж па начах Лідзіі і Вользе сны не давалі забыцца пра Радзіму. Неяк у красавіку 1945 у чатыры гадзіны раніцы дзяўчат пабудзілі разрывы снарадаў з боку Мюнхена. Гэта горад штурмавалі саюзнікі-амерыканцы. У той дзень гаспадар дазволіў гастарбайтарам не працаваць. Вывесіў на доме белы сцяг і сам пайшоў з сям'ёй працаваць у поле.

### Шлях дадому

Цяпер дзяўчат чакаў шлях дадому. Праз два дні ў мястэчка прыехаў трактар з прычэпам і адвёз савецкіх грамадзян у Мюнхен для адпраўкі на радзіму. Інтэрнат у Мюнхене быў напоўнены савецкімі вязнямі. У вестыбюлі была сталовая, кармілі амерыканскімі кансервамі, тушонкай, рыбай. Хто быў прыдатны да вайсковай службы, забіралі ў армію. Астатнія чакалі адпраўкі ў СССР. Праз нейкі тыдзень, забяспечыўшы вязняў трохдзённымі ссабойкамі, савецкая камендатура Мюнхена пачала адпраўку грамадзян. Былых вязняў з горада пачалі вывозіць на амерыканскіх машынах у бок Аўстрыі. Праз кіламетраў дзвесце аўтакалона спынілася. Людзям загадалі выйсці і пастроіцца.

– А нам, – кажа Лідзія Дарафееўна, – сказалі пачакаць тут або ісці пяціху па шашы, каб патрапіць у прызначаны гарадок. Калона без адпачынку з надзеяй рушыла наперад. Ішлі доўга, але гарадка не знайшлі і машын не дачакаліся. Пераначавалі ў дарозе. Стала зразумелым, чаму камендатуры спатрэбілася тэрмінова вывозіць вязняў з Мюнхена. Прычына – пераход савецкіх грамадзян на амерыканскую зону. І каб пазбавіць ахвотных на пераход такой магчымасці, камандаванне вырашыла хутчэй вывезці людзей з горада, на падкантрольную савецкім войскам тэрыторыю.

Толькі на пяты дзень дайшлі да таго самага гарадка і зноў сталі чакаць. Напрыканцы ліпеня дайшла чарга ехаць дадому. Праз тыдзень яны былі ўжо ў Будапешце. Тут зноў – перавалачны лагер. Адносіны мясцовых былі прыязныя. Давалі вопратку, абутак, частавалі. Палескія дзяўчаты ў адказ дапамагалі мясцовым збіраць вінаград. Больш за два тыдні Лідзія з Вольгай пражылі ў мясцовай сям'і, дапамагалі па гаспадарцы. Гаспадар-балгарын нават прапаноўваў застацца. Але дзяўчаты рваліся на роднае Палессе. Дзесьці 20 жніўня цягнік крануўся з Будапешта ва Украіну. У Кіеве Лідзія з Вольгай прыладкаваліся на першы грузавы цягнік да Ельска. Адтуль пешшу дайшлі да роднай вёскі і на месцы хат пабачылі абгарэлыя камяні ад печаў. А побач з імі паўставалі зрубы новага жытла. Родныя Лідзіі туліліся ў пабудаваным невялічкім склепе на сваім падворку побач са спаленай хатай. Тут Лідзія іх і застала падчас вячэры, а з імі – незнаёмага вайскоўца.



Лідзія Дарафееўна Мушавец (Літвінчук).

### Лідзія і Уладзімір

Ад родных стала вядома, што ў ліпені 1943 года на вёску зноў наляцелі ворагі. Пакуль тыя акружалі Заводны Востраў, амаль усе жыхары пакінулі жытло. Засталіся толькі нямоглыя старыя, якіх фашысты адвезлі ў суседнія Рэмезы, загналі ў будынак і спалілі. Жыхары Заводнага Вострава, якія выратаваліся, да зімы туліліся на балоце ў буданах, а зімой перабраліся ў наземныя скляпы-зямлянкі.

Пасля вайны вёска пачала адраджацца. Аднаўляюся калгас, леспрамгас, вузкакалейка. Для яе аднаўлення ў Заводны Востраў накіравалі вайсковых чыгуначнікаў. Адзін з іх, радавы Уладзімір Мушавец, узяў шэфства над сям'ёй таты Лідзіі Дарафееўны. Гэтага вайскоўца Лідзія і заўважыла сярод сваіх родных у першы дзень вяртання з чужыны. Уладзімір дапамагаў Дарафею па цяслярскай справе. Гэта рамяство яму было знаёмае з дзяцінства. Паміж Лідзіяй і Уладзімірам завязалася сяброўства.

Дзяўчына стала працаваць у Двіжскай сямігодцы. Неяк, вы-

# гастарбайтараў



Вяселле Мушаўцоў.



Бацькі Уладзіміра Мушаўца, Міхаіл Іванавіч і Юстына Яфімаўна.

ходзячы пасля заняткаў са школы, Лідзія ў двары ўбачыла свайго сябра Уладзіміра. Цяпер маладыя сустракаліся кожны выхадны. Калі вайскоўцы абнавілі вузкакалейку, Уладзімір паехаў пад Брэст. А Лідзія засталася працаваць і вучыцца завочна на трэцім курсе ў Мазырскім настаўніцкім вучылішчы.

## Што адбывалася падчас вайны ў Асаўцы і ваколіцах

Уладзімір дасылаў дзяўчыне лісты. Расказваў, што нарадзіўся ў вёсцы Асавец у 1918 годзе, калі тут ужо гаспадарыла кайзераўская Германія. А ў 1921 яе змяніла Польшча. Бацька Уладзіміра, **Міхаіл Іванавіч**, пасля вяртання з Першай сусветнай моцна хварэў. І ў 1924 годзе, калі Уладзіміру ішоў сёмы год, памёр ад сухотаў. Маці, **Юстына Яфімаўна**, падымала дзяцей сама. Уладзімір скончыў чатыры класы польскай школы. У 15 год, як самы старэйшы, узяў на сябе абавязкі гаспадара. Праз некалькі год, як меншыя падраслі, уладкаваўся ў Маладзечне на хлебапякарню.

Калі 1 верасня 1939 года фашысцкая Германія напала на Польшчу, яго не мабілізавалі ў Войска Польскае, не трапіў і на фінскую вайну. Прызвалі ў канцы 1940-га ў Чырвоную Армію, у будаўнічы батальён, які фарміраваўся ў Вілейцы. Сфарміраваны, але не абмундзіраваны батальён перакінулі на Беласточчыну, пасля будавалі аэрадром у Зэльве. Тут 22 чэрвеня ад мясцовых жыхароў даведаліся, што пачалася вайна. У першыя дні спрабавалі працягнуць будоўлю аэрадрома. Але немцы не давалі гэта рабіць. Таму паступіла каманда ўсім сысці далей ад аэрадрома ў лес. Пасля ваенных будаўнікоў з Заходняй Беларусі вырашылі распусціць па хатах. Уладзімір рушыў праз Шчару, за ёй Ліпічанскую пушчу, з іншымі заходнікамі выйшаў да Нёмана.

Часам наляталі нямецкія самалёты, шмат людзей з калоны загінула. У мястэчку Любча перабраліся на другі бераг Нёмана. Там ужо адны пайшлі ў кірунку Смаргоні, а іншыя, у тым ліку і Уладзімір, цераз Налібокі ў бок Івянца. Пасля Уладзімір і яшчэ некалькі чалавек рушылі напрасткі праз балота на Гарадок. На першым хутары жыхары папярэдзілі, што Гарадок, Відзеўшчына і Краснае занятыя немцамі. На хутары пераначавалі. А раніцай падаліся на Алёхнавічы. Уладзімір ішоў узлескамі. Спачатку – да Плябані, а там праз Малашкі ў Асавец, дзе сустрэўся з роднымі. Вяскоўцы распавялі, што ўжо на трэці дзень вайны дайшлі чуткі, што нямецкія войскі ідуць на Мінск праз Краснае. І сапраўды, хутка на вуліцы Асаўца людзі ўбачылі ўзброеных чужынцаў на матацыклах. З гэтага дня там абвясцілі нямецкую ўладу. Чужынцы са сваімі памагатымі забралі ўвесь сабраны ўраджай. А яшчэ мужыкі павінны былі працаваць на лесанарыхтоўках і на іншых работах у Красным.

У пачатку 1942-га ў навакольных лясах пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады, якія наладзілі сувязь з асаўлянскімі мужыкамі, што працавалі ў немцаў у Красным. Уладзімір працаваў на лесанарыхтоўках за Раёўкай. Там жа ў лесе і перадаваў партызанскаму сувязному **Есмановічу (Пётрачку)**, аб'езчыку лесу, разведдадзеныя і зброю з патронамі, дабытую асаўлянскімі рабочымі з нямецкіх складоў. І гэтак на працягу двух гадоў. У 1943 годзе немцы западозрылі Уладзіміра ў сувязі з партызанамі. 27 верасня яго затрымалі ў Ракуцёўшчыне, дзе той павінны быў сустрэцца з чалавекам з разведдадзенымі для партызан. Каб адвесці ад сябе падазрэнне, Уладзімір у Ракуцёўшчыне спачатку зайшоў да шаўца **Паўловіча** перашыць старыя боты для малодшага брата. Тут затрымаўся, тым самым ратаваўшы сябе. Бо калі выйшаў ад Паўловіча, то заўважыў незнаёмца ў акружэнні немцаў і паліцаяў. Уладзімір паспрабаваў прайсці далей па дарозе, але немцы загадалі спыніцца. Яго затрымалі і адвезлі ў Маладзечна ў Шталаг, а пасля – у Мінск, на Валадарку ў гестапа. Тут катавалі, але ён не прызнаўся ў сувязі з партызанамі.

## Асвенцым і Дахаў у лёсе Уладзіміра

Праз некалькі дзён Уладзіміра з іншымі зняволенымі загрузілі ў вагоны-цялятнікі і цягніком адправілі на захад. Як пасля вайны высветлілася, па тым самым маршруце, па якім прайшла і Лідзія годам раней – спачатку Асвенцым, пасля – Дахаў і тая ж самая працоўная біржа Arbeitsamt. Тут яго як прафесійнага хлебапёка адправілі працаваць на хлебазавод. Тут і дачакаўся вызвалення.

Калі прыйшла савецкая армія, Уладзіміра адразу там жа, у Мюнхене, залічылі ў будаўнічы батальён і адправілі ў СССР, на адраджэнне народнай гаспадаркі. І ўжо ў пачатку ліпеня Уладзімір Мушавец са сваім батальёнам патрапіў на Мазыршчыну, на аднаўленне вузкакалейкі Махнавічы-Ельск. Палявы батальённы лагер размясціўся на ўскрайку вёскі Заводны Востраў. Там ён і пазнаёміўся з Лідзіяй Дарафееўнай Літвінчук.

## З Палесся – назаўсёды ў Асавец

Да жніўня 1946 года знаёмства перарасло ў каханне. У сярэдзіне жніўня Уладзімір дэмабілізаваўся з войска, заехаў у Заводны Востраў забраць Лідзію ў Асавец. Сям'я дзяўчыны трывожылася, бо ў Заходняй Беларусі было неспакойна: даходзілі чуткі, што тут яшчэ шмат антысавецкіх узброеных груповак у лясах. Але Лідзія з каханым усё ж рушылі ў Асавец. Вёска сустрэла маладых амаль цалкам спаленай, загінула паўсотні яе жыхароў, у тым ліку і маці Уладзіміра. Неабстраляныя асавецкія юнакі склалі галовы на фінскай вайне, у арміі генерала Андэрса, зніклі без звестак.

Трэба было ўсё пачынаць наноў – будаваць, заводзіць сем'і, ствараць калгас. Да 1939-га Асавец быў пад Польшчай, і да вайны стварыць калгас не атрымалася, бо амаль што ўсе былі супраць. Гэта тэндэнцыя засталася і ў пасляваенны час. Спачатку ішлі ўгаворы, пераконванне. Нямала намаганняў для стварэння калгаса прыкладала і Лідзія Дарафееўна. Але як ні намагалася яна, не хацелі сяляне развітвацца з аднаасобніцтвам. На пачатку 1947 года на сялян-аднаасобнікаў з боку ўлады пачалося адміністрацыйнае і юрыдычнае ўздзеянне. Выканкамы праводзілі інвентарызацыю сялянскіх падворкаў, шукалі кулакоў і сераднякоў. Людзей абкладалі трайнымі падаткамі. Пачалося раскулачванне. У людзей з суседніх вёсак забіралі жывёлу і зямлю. Лідзія Дарафееўна ўсім, хто пагаджаўся, пісала заявы на ўступленне ў калгас, бо людзі мелі толькі польскую адукацыю. Да восені 1947 калгасы ўсё ж стварылі.

Уладзімір Міхайлавіч уладкаваўся вольнанаёмным у вайсковую часць у Красным, а Лідзія Дарафееўна працавала ў школе. У сям'і нарадзіліся сыны **Міхаіл**, **Леанід**, **Уладзімір**. У аднаўленым пасля вайны бацькоўскім доме месца хапала.

Зацягнуліся ваенныя раны, але бацькам прыйшлося перажыць яшчэ адну трагедыю. У чэрвені 1991 года пры трагічных абставінах у адзін дзень загінулі два сыны, Леанід і Уладзімір. Падчас купання на рэчцы Рыбчанцы ў аднаго з братоў сутарга звяла ногі, і ён пачаў тануць. Другі нырнуў яго ратаваць, але на паверхню ўжо ніхто не вынырнуў. Загінулых вадалазы знайшлі пад абрывістым берагам счэпленымі. А ў 2000-м ад страты двух сыноў не вытрымала сэрца Уладзіміра Міхайлавіча. Гэта чарговая рана моцна надарвала здароўе і Лідзіі Дарафееўны.

Але яна сёння ў 97 год жыве адна ў сваім доме і не хоча пераязджаць у сям'ю сына.

– Я тут жыву за сябе, за свайго каханага мужа і за родных дзетак сваіх, – кажа жанчына.

Хачу выказаць слова падзякі за гэты артыкул Лідзіі Дарафееўне Мушавец (Літвінчук), **Марыі Дзянісаўне Пашкоўскай** (Старавойтавай), **Еве Сямёнаўне Чарнецкай**, **Леаніду Браніслававічу Пашкоўскаму**, **Алене Сцяпанаўне Хмяльніцкай** (Літвінчук), **Таццяне Сяргееўне Чэрнік** (Падвысоцкай), **Марыі Харытонаўне Мушавец** (Паўловіч).

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

7 МАЯ

**1942.** У Аляксандраўскім скверы Мінска былі павешаныя 28 чалавек – удзельнікаў мінскага падполля.

8 МАЯ

**1945.** Прадстаўнікі саюзных дзяржаў падпісалі ў Карлсхорсце (прадмесці Берліна) Акт аб безумоўнай капітуляцыі германскіх узброеных сіл – Акт капітуляцыі Германіі ў Другой сусветнай вайне.

9 МАЯ

**1945.** У СССР абвешчана пра падпісанне Акта капітуляцыі Германіі ў Другой сусветнай вайне.

10 МАЯ

**1794.** Французская рэвалюцыя. Прынцэса **Лізавета Бурбон** абезгалоўленая на гільяціне па прыгаворы рэвалюцыйнага суда разам з іншымі 23 мужчынамі і жанчынамі.

**1863.** У ходзе антырасійскага паўстання ў баі ля Пятроўшчыны (цяпер у межах Мінска) рускія разбілі атрад з 300 паўстанцаў пад кіраўніцтвам **Антона Трусава**.

11 МАЯ

**1855. Яўстах Тышкевіч** заснаваў Віленскі музей старажытнасцяў.

12 МАЯ

**1833.** У маёнтку Адамарын на тэрыторыі сённяшняга Маладзечанскага раёна нарадзіўся **Бенядыкт Дыбоўскі** – беларускі, расійскі і польскі заолаг, прыродазнаўца, доктар, член-карэспандэнт АН СССР (1928). Брат **Уладзіслава Дыбоўскага**.



**1926.** Пачатак майскага перавароту ў міжваеннай Польшчы пад кіраўніцтвам маршала **Юзафа Пілсудскага**.

13 МАЯ

**1905.** У Мінску нарадзілася **Стэфанія Станюта**, беларуская актрыса, народная артыстка СССР.



Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Аляксей Кудзін падчас пратэстаў у Маладзечне 10 жніўня 2020 года.

# Аляксея Кудзіна могуць экстрадаваць у Беларусь

**Маладзечанскі адзінаборца Аляксей Кудзін атрымаў дакументы на экстрадыцыю. Са студзеня ён знаходзіцца пад арыштам у Расіі, дзе яго затрымалі па просьбе беларускага боку.**

Кудзіна абвінавачваюць па крымінальным артыкуле за супраціўленне міліцыянерам падчас пратэснай акцыі 10 жніўня 2020 года ў Маладзечне.

29 красавіка SPORT.TUT.BY паведаміў, што стала вядома аб атрыманні дакументаў на экстрадыцыю Аляксея Кудзіна.

Адвакаты Кудзіна пры гэтым выступаюць супраць яго выдачы і рыхтуюць цяпер дакументы ў Еўрапейскі суд па правах чалавека (ЕСПЧ).

**У сакавіку Аляксей Кудзін звяртаўся да Упаўнаважанага па правах чалавека ў Расіі з просьбай даць яму палітычны прытулак.**

Нагадаем, Аляксея Кудзіна затрымалі на акцыі пратэсту недалёка ад маладзечанскага гарадскога парку 10 жніўня. Адпусцілі 21 жніўня, узбудзіўшы ў яго дачыненні крымінальную справу і абраўшы меру стрымання ў выглядзе хатняга арышту.

На судовае пасяджэнне 19 лістапада 2020 года Кудзін не з'явіўся. Яго жонка расказала, што раніцай таго дня муж паведаміў, што з'язджае ў суд. Больш яна яго не бачыла, на тэлефонныя званкі ён не адказваў.

**Пасля гэтага суддзя змяніла меру стрымання з хатняга арышту на заключэнне пад варту, а Аляксея Кудзіна афіцыйна абвясцілі ў вышук.**

Кудзіна затрымалі падмаскоўныя паліцэйскія ў студзені 2021 года. Дамададзедаўскі суд пастанавіў узяць Кудзіна пад варту на два месяцы. Пракуратура Беларусі даслала дакументы расійскай пракуратуры з просьбай аб экстрадыцыі адзінаборцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## «Маладзечна» супраць чэрвеньскага «Коласа» і іншыя вынікі лёсавання Кубка Беларусі па футболе

У Доме футбола адбылося лёсаванне папярэдняга раўнда Кубка Беларусі-2021/22. У першым этапе прымуць удзел 70 камандаў.

Матчы пройдуць 8-9 мая. Пераможцы сустрэчы (будзе толькі адна гульня) працягнуць барацьбу ў 1-м адборачным раўндзе, гульні якога прызначаныя на 22-23 мая.

Яшчэ пяць камандаў з другой лігі прымуць удзел у турніры з наступнай стадыі.

**З кім згуляюць каманды рэгіёна:**

**ФК «Маладзечна»** – «Колас» (Чэрвень)

**Ашмянскі ФСК** – «Змена» (Ваўкавыск)

**«Вілія» (Вілейка)** – Смалявічы

**ФК «Астравец»** – «Слонім-Сіці»

**Паводле Football.by.**

## Першы матч у сезоне для ФК «Маладзечна» адменены

Прэс-служба ФК «Маладзечна» паведаміла, што першы матч у сезоне ў другой лізе адменены.

Каманда сапернікаў з Беразіно не змагла прыехаць на сустрэчу. Папярэдне паведамлялася, што ФК «Маладзечна» атрымае тэхнічную перамогу з лікам 3:0. Пазней федэрацыя футбола заявіла, што матч перанесены.

**Прэс-служба ФК «Маладзечна».**

## Вынікі матчаў у другой лізе

У другой лізе прайшоў першы тур у сезоне 2021 года. Матч «Маладзечна» перанеслі, а гульні іншых камандаў рэгіёна адбыліся.

У Гродзенскім дывізіёне «Ашмяны» прайгралі скідзельскаму «ФСК Гродзенскі» з лікам **0:2**, «Астравец» перамог «Слонім-Сіці» – **0:5**.

У Мінскім дывізіёне ў зоне Поўнач «Вілія» прайграла «Смалявічам» з лікам **1:3**.

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» зноў прайграла

Смаргонскія футбалісты саступілі ў сёмым туры вышэйшай лігі. «Смаргонь» гуляла ў выязной сустрэчы супраць БАТЭ.

Футбаліст БАТЭ **Максім Скавыш** забіў у вароты смаргонцаў на 11-й хвіліне, пасля гульцы ні адной з камандаў не адзначаліся галамі.

Для «Смаргоні» гэта пятае паражэнне ў сезоне. Каманда займае 14 месца ў турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанец узяў бронзу на чэмпіянаце Еўропы па грэка-рымскай барацьбе

Маладзечанскі барэц **Мікалай Стадуб** узяў бронзу на чэмпіянаце Еўропы па грэка-рымскай барацьбе.

Чэмпіянат Еўропы праходзіў у Варшаве 19-25 красавіка. Стадуб змагаўся ў катэгорыі да 97 кілаграмаў.

У кваліфікацыйным этапе маладзечанец перамог грузіна **Георгія Мелію**. У чвэрцьфінале перамог у схватцы з фінам **Арві Савалайненам**. У паўфінале саступіў венгру **Балашу Кішу**, а ў паядынку за бронзавы медаль перамог прадстаўніка Азербайджана **Заміра Магамедава**.

Нагадаем, што Мікалай Стадуб падпісаў ліст Свабоднага аб'яднання спартсменаў за сумленныя выбары і супраць гвалту.

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Невялікае ўзвышша, узгорачак на паверхні зямлі.
4. Тулава чалавека або жывёліны.
7. Віктар Казько: «Ніколі так не пілі, як у час барацьбы за ...».
10. Хросная маці ў адносінах да бацькоў хросніка і да хроснага бацькі.
11. Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах, акалічнасцях.
12. Верхняя частка цела чалавека, верхняя або пярэдняя частка цела жывёліны, якая заключае ў сабе мозг.
16. Унутраная святлоадчувальная абалонка вока.
17. Змацаваная слізззю маса зернепадобных яек, якія адкладваюцца рыбамі, земнаводнымі, малюскамі і іншымі воднымі жывёламі.
19. Прадмет мэблі ў выглядзе шырокай гарызантальнай дошкі на высокіх падпорах (ножках), часам з шуфлядамі, тумбачкамі, на якія кладуць, ставяць.
21. Той, каго паслалі з тэрміновым паведамленнем.
23. У напрамку перад сабой; у напрамку руху; процілеглае назад.
25. Памяшканне з галля, саломы ці тонкага бярвення для часовага жылля; шалаш.
26. Жыллё, зробленае птушкамі з галінак, гліны, пер'я.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Не мокры, не прасякнуты вадою; не сыры.
3. Дугападобная палоска валасоў над вачамі.
5. Раўнавага, ураўнаважванне.
6. Паняцце, уяўленне, якое праўдзіва або памылкова адлюстроўвае рэчаіснасць у свядомасці чалавека і вырашае яго адносіны да навакольнага свету.
8. Скарачэнне, пропуск у тэксце літаратурнага або музычнага твора.
9. Прыгожа, прыемна, прыветна.
10. Частка ўдарнага механізма ў ручной агнястрэльнай зброі.
13. Скульптура, якой язычнікі пакланяліся як бажаству.
14. Абрыс, лінія, якая ачэрчвае форму прадмета.
15. Насціл з бярвення, галля, ламачча для праезду цераз балота ці гразкае месца.
16. Майстэрства вядзення буйных ваенных аперацый, кампаній і ўсёй вайны.
18. Спатканне пры руху з розных бакоў.
20. Не еўшы нічога.
22. Дыяметр канала ствала агнястрэльнай зброі.
24. Раптоўны напад, уварванне на якую-небудзь тэрыторыю і спусташэнне яе.

## Адказы на крыжаванку з №18

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Выклік. 3. Асфальт. 4. Важна. 8. Дабрата. 9. Салют. 11. Дуда. 12. Салдат. 13. Акцэнт. 17. Акрамя. 20. Актыватар. 22. Геніюш. 25. Морква.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Далонь. 2. Валацуга. 5. Класік. 6. Кашуля. 7. Вада. 8. Дазатар. 10. Салавей. 14. Цагельня. 15. Калена. 16. Датла. 17. Антэна. 18. Калым. 19. Адамовіч. 21. Вынік. 23. Сода. 24. Спадніца.

## ГАРАСКОП НА 7-13 МАЯ



**АВЕН.** У асабістым жыцці наступіць доўгачаканае зацішша. Трымайце сябе ў руках, каб зноў не парушыць ідылію. Гэты перыяд добры для пабудовы новых планаў і разважанняў аб тым, як іх рэалізаваць.



**ЦЯЛЕЦ.** На працы можа абвастрыцца канкурэнцыя. Не спрачайцеся, а лепш выдаткуйце энергію на падтрыманне ўнутрысямейных адносін. Будзьце больш мяккімі са сваякамі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Парады ад людзей з большым досведам успрымайце ўсур'ёз. Яны дапамогуць прыняць правільнае рашэнне. Выхадныя правядзіце ў сямейным коле. Гэта дапаможа аднавіць згубленую роднасную сувязь.



**РАК.** За складаныя справы бярыцеся толькі ў тым выпадку, калі вам ёсць на каго спадзявацца. Ад некаторых задач прыйдзецца адмовіцца. Грошы, якія дасце ў доўг, вернуцца не хутка. Але даць іх усё ж давядзецца, калі хочаце захаваць сяброўства.



**ЛЕЎ.** Могуць з'явіцца праблемы, якіх вы не чакалі. Не дазваляйце эмоцыям узяць над вамі верх. Адпачыць зможаце ў выхадныя. Лепш аддаць перавагу спакойнаму адпачынку.



**ДЗЕВА.** У вас з'явіцца шанец вырашыць старыя сямейныя праблемы. Не ўпусціце яго! Перыяд спрыяльны для любых паездак і ўдзелу ў забаўляльных мерапрыемствах. Шматабяцаючыя знаёмствы чакаюць вас. Зоркі раяць прыглядзецца да новых людзей больш уважліва.



**ШАЛІ.** Трымаць сябе ў руках у дадзены перыяд будзе не так проста. Жаданне палаяцца з кім-небудзь можа перашкодзіць спакойна перажыць гэты час. Каб разрадзіць абстаноўку, адпраўляйцеся за горад – напрыклад, на дачу. Адпачніце, выпусціце пар, набярыцеся сіл.



**СКАРПІЁН.** Без кампрамісаў будзе не абысціся. Не бойцеся першымі ісці на прымірэнне, калі шануеце адносінамі з блізкімі. З боку добрага сябра магчымая здрада. Аднак не спяшаецеся выкрэсліваць яго са свайго жыцця. Дайце шанец усё выправіць.



**СТРАЛЕЦ.** Выдатны час, каб пачаць актыўна даглядаць за сабой. Вы нават можаце кардынальна змяніць вобраз. На працы вялікі шанец пачаць службовы раман. Чаму б і не? Але ўсё ж у любой сітуацыі лепш спачатку падумаць, а ўжо потым з галавой акунацца ў свет эмоцый.



**КАЗЯРОГ.** Новыя ўражанні і яркія эмоцыі чакаюць у бліжэйшы тыдзень. Дайце сабе адпачыць і зарадзіцца энергіяй на доўгі час наперад – вам гэта неабходна. Некалькі азмрочаць гэтыя дні праблемы з дзецьмі. Вырашайце іх на халодную галаву або зусім адкладзіце прыняцце рашэння на потым.



**ВАДАЛЕЙ.** Над некаторымі прадстаўнікамі знака навісне рызыка здрады. Прыгледзьцеся да партнёра, каб зразумець, ці ў небяспецы ваш саюз. Звярніце ўвагу на здароўе. Нешта ледзь-ледзь турбуе? Тут жа звяртайцеся да доктара.



**РЫБЫ.** У вас з'явіцца шанец набыць каштоўны досвед. Так, гэта можа быць не проста, але вы з усім справіцеся. Калегі могуць пачаць рабіць падкопы супраць вас – будзьце гатовыя. Лепш заставайцеся ўбаку. Больш праводзьце часу з другой паловай, каб умацаваць вашы адносіны.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | 9 | 7 | | | 1 | |
| | 7 | | | | | 4 | 3 | |
| | | | | | | 9 | 7 | 5 |
| 2 | 9 | | | | | 3 | | |
| | | | 9 | 3 | | | 5 | 4 |
| | 1 | | | | 8 | | | 6 |
| | | | | 1 | 2 | | 6 | |
| 8 | 3 | | 4 | | | | | |
| | | 1 | 6 | 8 | | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by






Фота забяспечанае Уладзімірам САДОЎСКІМ.

## Маладзечанец «паставіў» на ранейшае месца трыумфальную арку ў Гелянове

**Краязнаўца Уладзімір Садоўскі з дапамогай камп'ютарнай праграмы для краязнаўчых даследаванняў малюе 3D-мадэлі будынкаў, у тым ліку і страчаных.**

Нядаўна ён намаляваў мадэль трыумфальнай аркі ў гонар Пілсудскага, што стаяла ў былым вайсковым гарадку Гелянова. Згодна з планамі, яна месцілася паміж двух афіцэрскіх дамоў.

Дамы захаваліся да сёння, а вось арку, пабудаваную ў 1929, знеслі на пачатку 1960 гадоў. Палічылі, што яна перашкаджала дарожнаму руху. А тады якраз пабудавалі новую дарогу на Валожын.

Мадэль краязнаўца «ўставіў» у сённяшняе асяроддзе мікрараёна Гелянова, таму можна ўявіць, як глядзеўся б помнік, калі б захаваўся да нашых дзён.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як гэта – памяняць працу ў IT-сферы на пасаду настаўніка ў вясковай школе? Распыталіся ў чалавека, які прыйшоў у педагогіку з іншай галіны. Чаму і што з гэтага атрымалася.**

## 8 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 8-9 м/с




Паводле rp5.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Чым вы плануеце заняцца на вялікіх выхадных?



**Таццяна:**
– Правесці час з сям'ёй, бо наша жыццё такое хуткаплыннае. Не паспееш азірнуцца, як усе мы старыя.



**Аляксей:**
– Ну, спачатку, відаць, палезем у яму даставаць бульбу... Потым будзем закопваць яе ў зямлю. А пасля будзем адпачываць.



**Людміла:**
– Паедзем на 9 мая ў Заброддзе дапамагаць, там будзе свята.



**Таццяна:**
– Паеду на брацкія магілкі да дзеда ў Польшчу. Упершыню ў жыцці.



**Алег:**
– Выезд на прыроду на рыбалку, шпацыр па Мінску на 9 мая.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№19 (1358) 7.05.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 757. Падпісана ў друк у 9.00 6.05.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.